

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2 (15) Люты 1995 February Год выд. 3


# ВЫБАРЫ Ў ПАРЛЯМЭНТ БЕЛАРУСІ АДБУДУЦЦА 14-га МАЯ 1995 Году

**ВЫБАРЫ-95**

## ЯКІМ БУДЗЕ НОВЫ ПАРЛАМЕНТ?

**Такім чынам, парламенцкія выбары адбудуцца 14 мая 1995 года – такое рашэнне прыняў нядаўна Вярхоўны Савет Беларусі. Як вядома, прагнозы сіноптыкаў не ўплываюць на надвор'е, а вось думка палітыкаў аказвае ўздзеянне на тую або іншую падзею. У гэтай сувязі цікавыя выказванні некаторых беларускіх палітыкаў наконт будучага парламента.**

**Сакратар Беларускай партыі камуністаў Віктар ЧЫКІН** лічыць, што маючыя адбыцца парламенцкія выбары будуць цяжкімі: прыняты закон звязаў палітычныя сілы па руках і нагах. Акрамя таго закон стварае ўмовы, каб выбары не адбыліся з першага разу. В. Чыкін лічыць, што наўрад ці ў парламенце будзе якая-небудзь дамінуючая сіла, якая набярэ больш як 50 працэнтаў галасоў. У ім будуць прадстаўлены левыя, правыя сілы працэнтаў па 25–30. Ён упэўнены, што пры гэтым левы блок адназначна не прайграе дэмакратам. Разам з тым нямала дэпутацкіх мандатаў атрымае партыя ўлады, таму што да таго часу будзе сфарміравана прэзідэнцкая вертыкаль, якая мае вялікія магчымасці.

**Лідэр Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ** чакае, што значная частка новага беларускага парламента будзе прадстаўлена дэмакратычнымі арганізацыямі. Хоць увойдзе ў яго і нямала прадстаўнікоў левай арыентацыі. З выбраннем Вярхоўнага Савета, лічыць ён, трэба чакаць павышэння палітычнай культуры. Новы парламент можа быць сур'ёзным стабілізатарам сітуацыі ў грамадстве, ствараючы добрыя законы. Ва ўмовах Беларусі важна, каб ён быў структурыраваны хоць бы на нейкую разумную колькасць фракцый, каб яны маглі па сутнасці дагаворвацца паміж сабой пры прыняцці важных законаў.

**Як лічыць лідэр Партыі народнай згоды Генадзь КАРПЕНКА**, з-за рэзкага пагаршэння эканамічнага становішча людзей наўрад ці трэба чакаць высокай актыўнасці грамадзян на маючых адбыцца парламенцкіх выбарах. Улічваючы тое, што, згодна з прынятым Законам аб выбарах, яны будуць лічыцца неправедзенымі, калі ў іх прымуць удзел менш як 50 працэнтаў выбаршчыкаў, правядзенне выбараў наогул ставіцца пад пагрозу. Разам з тым Г. Карпенка мяркуе, што дэмакратычны блок набярэ 50 працэнтаў дэпутацкіх мандатаў у новым парламенце і найбольш у ім будзе прадстаўлены Беларускі народны фронт.

**На думку старшыні Беларускага народнага фронту Зянона ПАЗНЯКА,** маючыя адбыцца парламенцкія выбары будуць цяжкімі, таму што для ўлады створаны вялікія магчымасці ўздзеяння на іх. Ёсць вялікая небяспека, адзначыў ён, што будучы беларускі парламент акажацца малаздольным, каб стаць ініцыятарам рэформаў. З. Пазняк лічыць, што прыняты Закон аб выбарах можа садзейнічаць таму, што не будзе рэальнай перамогі ні адной палітычнай сілы. Але нават у гэтай сітуацыі шанцы БНФ на выбарах вялікія.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**
**Белінфарм.**

ЗВЯЗДА

Сяргей ДУБАВЕЦ "Свабода"

## ПАЛІТЫЧНАЯ ВОЛЯ

**Пройдзе яшчэ тры ці пяць гадоў, і сьвет вакол нас збольшага аформіцца. Польшча, Латвія, Летува ўвойдуць у Эўрапейскі зьвяз і ў NATO –– на абшары стабільнасьці і эўрапейскай інтэграцыі. Расея, разьвязаўшы вайну на Каўказе і правакуючы гэтым іншыя свае аўтаноміі, будзе далей патанаць у хаосе і дэградацыі — пакуль не здарыцца якая-небудзь чарговая рэвалюцыя ці не распачнецца вайна. Паміж аб'яднанай Эўропай і Расеяй — паміж стабільнасьцю і развалам — усталюецца мяжа, жорсткая і амаль непранікальная. Наш лёс залежыць ад таго, зь якога боку гэтай мяжы апынемся мы, беларусы. Падобна на тое, што жыць мы будзем так, як і сёньня, — у крытычнай няпэўнасьці. Або яшчэ горш. Бо ў блёку з Расеяй (у непрадказальнасьці стыхіі) захаваць такія выразныя чыньнікі стабілізацыі, як незалежнасьць, прыватная ўласнасьць, правы чалавека, — будзе немагчыма.**

**Хоча ці ня хоча Беларусь у аб'яднаную Эўропу? — адказу на гэтае пытаньне няма, бо пакуль ніяк ня вызначаная палітычная воля Беларусі, якая, урэшце, вырашае ўсё...**

І зразумела, чаму. Сёньняшняе кіраўніцтва Беларусі мысьліць па-расейску і разам з мовай успрымае ўсе сэнсы і праявы жыцьця, а для Расеі такія паняцьці, як незалежнасьць, правы чалавека, палітычная воля — нічога ня значаць у параўнаньні з словамі «звышдзяржава», «вялікі народ», «зялезная рука». Відавочна, што таварышчы мысьляць зусім ня мовай Тургенева, а сурагатам з бальшавіцкага канцылярыту, лягернай фені і беларускай трасянкі. І хоць А.Лукашэнка бясконца ўзвышае гэты свой сурагат па-над моваю беларускай, менавіта зь беларускай мовы і можа пачацца палітычная воля Беларусі і яе інтэграцыя ў Эўропу. Свая мова, гісторыя і культура — першы пропуск у Эўрапейскі зьвяз, у стабільнае і забясьпечанае жыцьцё. Нездарма на кожнай сустрэчы і ў кожнай заяве лідараў Зьвязу падкрэсьліваецца нацыянальная спэцыфіка як перадумова інтэграцыі. Бадай, асабліва на гэта зважае Францыя, якая з 1 студзеня будзе старшыняваць у Эўропе.

Але на ўзроўні расейскай стыхіі і расейскай сьвядомасьці згаданыя падставы не патрабуюцца, іх нібы і няма зусім.

Зразумела, што і з усходняга боку мяжы мусіць быць нейкая пазытыўная пэрспэктыва. Але не з нашаю дапамогай і не для нас. Расея — апошняя імпэрыя — ніколі ня стане цывілізаванай краінай, пакуль будзе абчэпленая такімі «братамі меншымі», як мы. Бо ў такой сытуацыі яна сама ня зможа выпрацаваць палітычную волю нармальнай (як іншыя) краіны, а будзе вымушаная шызафрэніраваць паміж функцыямі супэрбагатай і адначасова супэрбеднай дзяржавы, кармільцы і тырана, «родины свободы» і «тюрьмы народов». Яна будзе весьці лякальныя войны, душыць паўстаньні, сьціскаць у аблозе гарады, як рабіла гэта праз усю сваю гісторыю. Пакуль такія, як мы, не дасьпеюць да ўласнае палітычнае волі і ня вызваляць яе ад абавязкаў ката-апекуна. Пакуль жа Расеі нас і ўтрымліваць брыдка, і кінуць шкода.

Магчыма, час крыху апярэджвае нашыя памкненьні да незалежнасьці. Суседзі ўсё далей адрываюцца ад нас. І ў альтэрнатыве інтэграцыі альбо ў Эўропу, альбо ў адзінае цэлае Расеі ўсё больш і больш пераважае другі варыянт. Але ж і нашае нацыянальнае адраджэньне зайшло занадта далёка, каб, увайшоўшы ў Расею, мы тым самым вызвалілі яе ад сябе. Зародак нашай палітычнай волі мае і можа мець толькі праэўрапейскі характар, што пры інтэграцыі з Расеяй ператварае Беларусь у яшчэ адну міну запаволенага дзеяньня.



**Зянон ПАЗЬНЯК:**

## "Чалавеку часцей трэба казаць добрыя словы"

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА



**— Зянон Станіслававіч, цікава даведацца, ці зменіцца нешта ў Вашых адносінах да палітычных праціўнікаў у наступным годзе?**

— Што азначае — палітычных праціўнікаў? У мяне ёсць палітычныя апаненты, якіх трэба крытыкаваць, уступаць у дыскусію альбо ігнараваць. Гэта і ёсць палітычная барацьба. Аднак яе змест я бачу ў канструктыўных дзеяннях і пазітыўных выніках. Выказваюцца прынцыпы, ставіцца задача, звязаная з праграмнымі мэтамі. Астатняе — праца.

**— Вы паважліва ставіцеся да сваіх палітычных апанентаў?**

— Так, бо я — беларус, грамадзянін еўрапейскай краіны. Вядома, калі палітычныя апаненты не крымінальныя ягоднікі і не забойцы. А такіх хапае.

**— Вы не зменіце гэтага стаўлення ў наступным годзе?**

— Чаму вы задаяце такія пытанні? Хіба вы не бачыце маіх выступаў на сесіі, маіх паводзінаў у палітыцы? Ці, можа, хто-небудзь паводзіць сябе лепш? Альбо на нейкага больш выліла бруду, нечысці ўся гэта палітычная і журналісцкая "брація"? Прааналізуйце, як я да іх стаўлюся. Я не ўвязваюся ні ў якія непатрэбныя размовы з людзьмі цёмнымі, некультурнымі і амаральнымі. У сутках усяго 24 гадзіны, жыццё вельмі кароткае, каб яго разменьваць на чужыя амбіцыі і пустапарожнія глупствы. Я чалавек выхаваны так, як выхаваны, і захоўваю ўсе этычныя і маральныя нормы ў дачыненні да людзей.

**— Апошнім часам былі выпадкі, калі Вы не вытрымлівалі і патрабавалі, каб той, хто Вас абразіў, папрасіў прабачэння...**

— Так, гэта было з Прэзідэнтам. На жаль, ён такі вырас, так выгадаваўся, што не адчувае адказнасці за свае словы. Але тое, на што раней можна было не звяртаць увагі, зараз патрабуе жорсткага адказу. Цяпер ён Прэзідэнт, і кожнае ягонае слова ўспрымаецца людзьмі па-іншаму, яно ацэньваецца, бярэцца на веру, мае значэнне. Ён карыстаецца гэтым.

**— Ці збіраецеся асабіста Вы зрабіць нейкія карэктывы ў сваіх паводзінах, у сваім іміджы ў наступным годзе?**

— Мне не трэба карэкціраваць сябе, бо пяцьдзесят гадоў я жыву па праўдзе і сумленню. Наконт іміджу — ніколі аб гэтым не задумваўся: як Бог даў, так і ёсць. Гэтак прасцей. Да таго ж свет стаў такі подлы, што нават каб я быў анёлам — усё роўна спаганяць. Так што не трэба тлуміць сабе галаву.

**— А як Вы звычайна сустракаеце Новы год?**

— Новы год у мяне асаблівых пачуццяў не выклікае. Гэта рэдкая ноч, калі я магу добра паспаць. І я заўсёды яе скарыстоўваю. Разумееце, я не вельмі люблю тыя святы, якія чалавек вымушаны святкаваць ноччу. А вось Нараджэнне Хрыстовае — гэта для мяне самае вялікае свята. З ім звязаны самыя добрыя ўспаміны з дзяцінства: ёлка, снег, госці, падарункі. Вельмі добра, што зараз гэтае свята вярнулася да людзей. Рады, што ў гэтым ёсць кропелька і маёй працы.

**— У Вашай хаце будзе ёлка?**

— Канешне. Сімвалічная была заўсёды, хаця б яловая галінка ўпрыгожаная. Звычайна забеспячэнне ёлкі — гэта мая справа.

**— Ці атрымліваеце Вы падарункі?**

— Так. Гэта ў нас таксама абавязкова: віншаваць адзін аднаго і дарыць падарункі. Няхай невялічкія, каб засведчыць свае добрыя адносіны. Чалавеку ўвогуле трэба часцей казаць добрыя словы.

**— А што б Вы хацелі перадаць напярэдадні свята чытачам "Народнай газеты"?**

— Здароўя, любові і вольнай Беларусі.

Гутарыў
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.**

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*ДЭМАГРАФІЯ*

## БРЭСТЧЫНА Ў ЛІЧБАХ

**Кожны пяты жыхар Брэсцкай вобласці знаходзіцца ў пенсіённым узросце, а праз 20 гадоў доля гэтай катэгорыі насельніцтва можа ўзрасці да 25 працэнтаў.**

**З 1939 па 1993 год колькасць жыхароў вобласці павялічылася на 310 тысяч і склала на 1 студзеня 1994 года 1 мільён 519,7 тысячы чалавек. За гэты ж перыяд колькасць гараджан павялічылася больш чым у 5 разоў, а жыхароў сельскай мясцовасці скарацілася амаль у 2 разы. Узровень нараджальнасці знізіўся ў 2,5 раза. Такую дэмаграфічную сітуацыю сацыёлагі тлумачаць нізкай нараджальнасцю і ростам смяротнасці.**

*З БЕЛАРУСІ Ў АМЕРЫКУ*

## ВОДНЫ ШЛЯХ

**Дзелавое супрацоўніцтва з Гомельскім параходствам наладзіла вытворчае аб'яднанне "Беларускалій". Па яго заказу і пры непасрэдным удзеле на правым беразе Прыпяці пабудаваны перагрузачны комплекс, адкуль прадукцыя салігорскіх шахцёраў будзе дастаўляцца ў чарнаморскія порты і перапраўляцца ў Заходнюю Еўропу і Паўднёвую Амерыку.**

**Аб'яднанне не пашкадавала сродкаў і пераабсталявала сорак барж, каб захаваць таварны выгляд і якасць угнаенняў, паўтара мільёна тон якіх "Беларускалій" плануе пераправіць замежным спажыўцам водным шляхам у 1995 годзе.**

*РАДОВІШЧЫ*

## БЕЛАРУСКІЯ МІНЕРАЛЬНЫЯ ВОДЫ

**Рэпутацыю беларускіх Мінеральных Вод набывае Брэстчына. Яшчэ адна свідравіна глыбінёй 373 метры, адкрытая геолагамі, пачала працаваць на прамысловы выпуск вады "Заказельская". Вытворчасць гэта належыць аднайменнаму саўгасу ў Драгічынскім раёне. Мінеральная вада па ўтрыманню мікраэлементаў з'яўляецца аналагам вядомых каўказскіх вод. А нездаўга да гэтага пачалася вытворчасць мінеральнай вады "Дубойская" ў Столінскім раёне. За апошнія тры гады падземныя крыніцы мінеральных вод адкрыты і пачалі дзейнічаць таксама ў Іванаўскім, Івацэвіцкім і Ганцавіцкім раёнах.**

"Голас Радзімы"

## У Лідзе ціснуць на журналістаў

Раней, як вядома, журналісты былі "приводными ремнями партии". Да іх адносіліся адпаведна: партыя загадае — карэспандэнт напіша.

Апошні час трохі збіў з уладу маючых ганарыстую пыху. Зразумелі яны: чацвёртая ўлада нават пры ўсёй яе беднасці — гэта ўлада. З ёю трэба лічыцца. Гэтага чамусьці нават сёння не разумеюць у горадзе Лідзе.

Яшчэ з красавіка г.г. мясцовая "Лідская газета" выходзіла, не маючы галоўнага рэдактара. Калектыў, які, дарэчы, з'яўляецца сузаснавальнікам выдання, неаднаразова пісьмова звяртаўся да двух другіх "бацькоў" — старшынь гарадскога і раённага Саветаў. Просьба была адна: прызначыць рэдактарам ці кагосьці з супрацоўнікаў рэдакцыі, ці прапанаваць другую кандыдатуру, якая задаволіла б калектыў.

Час ішоў. Нарэшце мясцовым журналістам прадставілі кандыдатуру — рэдактара іўеўскай раённай газеты. Калектыў яго ведаў: раней працавалі разам. Але ж сумеснай творчай працы не атрымалася. І таму за прапанаваную кандыдатуру тады не прагаласавалі.

Тым не менш на гэтым тыдні райгарсаветаўскія прадстаўнікі зноў прыйшлі ў рэдакцыю не адны. Яны прывялі з сабою... таго ж рэдактара іўеўскай райгазеты. Ды пры гэтым яшчэ грозна паківалі лідскім журналістам кіруючым пальцам: ніякага галасавання больш не будзе!..

Адным словам, працуйце і падпарадкоўвайцеся. Ну, чыста як у былыя партыйныя часіны.

Калектыў журналістаў свае законныя правы нікому аддаваць не збіраецца. Людзі рыхтуюць прафсаюзны сход, на якім намераны абмеркаваць афіцыйны зварот у пракуратуру.

**Павел СТАСЕВІЧ,**
**Віктар ХАРОШКА.**

НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ...

# Як заўсёды, вінаваты Захад

**Чым болей слухаеш нашага прэзыдэнта, тым мацнейшае ўражаньне, што слова «сувэрэнітэт» ён разумее досыць своеасабліва. Сёньня гаворыць адно, думае — другое, а назаўтра, здараецца, — усё наадварот. Нейкая блытаніна атрымліваецца. Вось, напрыклад, пра што ён гаварыў, выступаючы на мінулым тыдні перад дэпутатамі Магілёўскага абласнога савету.**

Лукашэнка вельмі ўразіў прысутных, сьцьвердзіўшы. што «супраць Беларусі распачалі вайну Прыбалтыка і Расея, якія незалежна праводзяць цэнавую палітыку». Цікава, а хто ж нам перашкаджае праводзіць сваю цэнавую палітыку? Высьвятляецца, таксама «ворагі», але ўжо традыцыйна заходнія. Цытую Аляксандра Рыгоравіча далей: «Эмісары з Захаду не дазваляюць мне, вашаму прэзыдэнту, абараніць самых абяздоленых беларусаў. Калі я падпісаў вядомы ўказ, то яны зьявіліся з тупатам у прызыдэнцкую рэзыдэнцыю, але былі дастойна выштурханыя на ўзроўні Сініцына, і наш сувэрэнітэт быў выратаваны».

Далей Лукашэнка, які толькі што абвінаваціў быў Расею ў вайсковых дзеяньнях супраць Беларусі на «цэнавым фроньце», даў задні ход. Ён сказаў, што «нас цяпер можа абараніць толькі Расея. Стаўку на Валютны Фонд рабіць бессэнсоўна. Усякая лухта наконт структурнай перабудовы прамысловасьці і прыватнай уласнасьці на зямлю, якой патрабуюць ультрарадыкалы, — гэта спроба проста адцягнуць вырашэньне пытаньняў абароны беларусаў».

А скончылася выступленьне Лукашэнкі акурат паводле сцэнару Вячаслава Францавіча. Прэзыдэнт сказаў: «У Ціцянкова ляжыць мой факс з прапановамі Ельцыну. Яны пераслалі яго нам з рэзалюцыямі, якія заслугоўваюць увагі і рэалізацыі. Добрая воля Расеі ёсьць. У бліжэйшы час мы падпішам 2 асноўныя і 27 дапаможных пагадненьняў, і аб'яднаньне ўсё ж такі адбудзецца...» Вось так: Кебіч аб'ядноўваў-аб'ядноўваў, ды марна, а ўжо ў Лукашэнкі, трэба думаць, гэта абавязкова павінна атрымацца.

*"Свабода"* **Натальля РОСЛАВА**

# ЗША–Беларусь: праект, яшчэ праект...

*"Чыр. Зьмена"*

**Пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт Спенсэр Ялавіц і генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Палімер" — вядучага прадпрыемства нафтахімічнай галіны ў Беларусі — Леў Наважылаў падпісалі пагадненне аб бязвыплатнай фінансавай субсідыі. Згодна з гэтым кантрактам, агенцтвам па гандлю і развіццю ЗША будзе выдзелена да 500 тыс. даляраў на правядзенне экспертызы тэхнічных, фінансавых і экалагічных аспектаў прапанаванага комплексу па выпуску этылену ў Наваполацку. Экспертызу правядзе амерыканская інжынерна-будаўнічая кампанія "Браун энд Рут". Паводле яе вынікаў вызначыцца магчымасць далейшага інвесціравання банкам "Экспарт-Імпарт Бэнк" ЗША каля 300 мільёнаў даляраў на будаўніцтва і эксплуатацыю комплексу. Гэта будзе буйнейшы праект камерцыйнага супрацоўніцтва паміж Злучанымі Штатамі і Беларуссю.**

**Пагадненне аб гарантыях амерыканскага ўрада — канкрэтны прыклад адданасці Злучаных Штатаў справе развіцця эканамічных рэформ у Рэспубліцы Беларусь, падкрэсліў у сваім выступленні на цырымоніі падпісання пасол Ялавіц. Ён заявіў, што адной з галоўных мэт яго знаходжання на гэтай пасадзе стане пашырэнне гандлю і інвестыцый паміж дзвюма дзяржавамі. Пагадненне таксама дэманструе, адзначыў пасол, як развіваюцца падзеі, калі для замежных інвестараў ствараюцца спрыяльныя ўмовы. Ён заклікаў урад, фірмы і прадпрымальнікаў Беларусі смялей наладжваць дзелавыя сувязі з амерыканскімі кампаніямі і выкарыстоўваць праграмы, ажыццяўляемыя ўрадавымі ўстановамі ЗША для забеспячэння інвестыцыйнай і дзелавой дзейнасці амерыканскіх кампаній у Беларусі.**

**Пагадненне з'яўляецца першым паміж агенцтвам па гандлю і развіццю ЗША і беларускай кампаніяй. Але, як адзначыў міністр знешніх эканамічных сувязей Беларусі Міхаіл Марыніч, ужо ў бліжэйшы час будзе распрацоўвацца праект па развіццю фармацэўтычнай прамысловасці рэспублікі на суму ў 120 мільёнаў даляраў.**

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА.**

# АФІЦЫЙНАЯ ВЕРСІЯ НЯВЫДАЧЫ БЕЛАРУСКІХ ПАШПАРТОЎ

*"ЗВЯЗДА"*

12 снежня мінулага года на старонках «Звязды» была змешчана заметка «Загадкі без адгадак у справе выдачы беларускіх пашпартоў». З нагоды яе публікацыі супрацоўнік прэс-службы МУС РБ маёр Курловіч звярнуўся да начальніка ўпраўлення пашпартна-візавай службы МУС Сяргея Стэсіка па каментарый.

Спадар Стэсік спачатку сказаў наступнае: «Уважліва прачытаў заметку ў «Звяздзе» і адкажу прама, што тое, аб чым там гаворыцца, выклікае па большасці пазіцый здзіўленне». Аднак аўтар матэрыялу неаднаразова тэлефанаваў супрацоўнікам упраўлення пашпартна-візавай службы, у тым ліку, і начальніку: кожны раз яны абмяжоўваліся тым паведамленнем, што існуе шмат нейкіх нявызначанасцей, не падпісаны адпаведныя дакументы і г. д. Ніякай канкрэтыкі, таму і прыйшлося звярнуцца да іншых кампетэнтных крыніц інфармацыі.

Зараз жа мы рады пазнаёміць чытачоў са звесткамі з самых кампетэнтных крыніц — з упраўлення пашпартна-візавай службы МУС. Хоць і атрыманы яны ў выглядзе пісьмовага рэагавання на заметку.

Пашпарты новага ўзору выдаюцца толькі 16-гадовым жыхарам Мінска. Прычым у рэжыме вопытнай эксплуатацыі аўтаматызаванай сістэмы «Пашпарт». Затрымка ў выдачы дакументаў іншым грамадзянам Беларусі звязана з наступнымі прычынамі: 1) да гэтага часу няма афіцыйна зацверджаных правілаў перакладу прозвішчаў і імёнаў з беларускай на англійскую мову; 2) Кабінет Міністраў пакуль не зацвердзіў правілаў афармлення пашпарта грамадзяніна РБ для выезду за мяжу; 3) МУС чакае з Канады вынікаў экспертызы пашпарта новага ўзору, якую па ўмовах кантракта праводзіць мясцовая фірма спецыяльных устройстваў для друку; 4) самая вялікая праблема — адсутнасць фінансавых сродкаў на набыццё электроннай тэхнікі і спецабсталявання для функцыянавання другой чаргі сістэмы «Пашпарт» у абласных цэнтрах краіны.

І нарэшце, МУС не ў стане вырашыць апошнюю праблему за кошт уласных сродкаў і чакае дапамогі з боку ўрада.

**Сяргей ХРЫПАЧ.**

**Хто зрывае выдачу новых беларускіх пашпартоў?.. Ой, як хочацца аб гэтым даведацца!..**

# Выехаць за мяжу — не поле перайсці

З 1 студзеня 1995 года сапраўднымі для выезду за граніцу прызнаюцца замежныя пашпарты СССР, у якіх акрамя штампа аб тым, што ўладальнік пашпарта з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, прастаўлена спецыяльная адзнака, якая дае права шматразовага выезду ва ўсе краіны свету.

Ва ўпраўленні пашпартна-візавай службы МУС растлумачылі, што адзнака дае права шматразовага выезду за межы рэспублікі да пяці гадоў незалежна ад мэты. Кошт на год — адна мінімальная зарплата. Пяцідзесяціпрацэнтныя скідкі прадугледжаны для некаторых катэгорый грамадзян — пенсіянераў, удзельнікаў вайны, інвалідаў. Затое для тых, хто атрымлівае пашпарты новага ўзору, паслуга будзе каштаваць у два разы даражэй — за бланк дакумента і адкрыццё візы.

Няма праблем, скажаце сабе і паспяшаецеся ў раённы АВІР? Памыляецеся. Яны ўжо ўзніклі. Зрэшты, па вашай жа віне або, дакладней, непаваротлівасці. Справа ў тым, што такая працэдура афармлення дакументаў прадугледжана Законам аб уездзе і выездзе, які ўступіў у сілу яшчэ ў студзені мінулага года. Вярхоўны Савет, ідучы насустрач тым, хто выязджае за мяжу, і арганізацыям, якія дапамагаюць ажыццявіць намер, даў практычна гадавую "аддушыну-тэрмін", каб прывесці дакументы ў адпаведнасць з патрабаваннем Закона. Але як заўсёды ўзяло верх прывычнае: мужык не перахрысціцца, пакуль гром не грымне. Для многіх ён грымнуў прама на граніцы. Мытным і пагранічным службам дадзена ўказанне не выпускаць за межы Беларусі нікога без дазвольнай адзнакі.

Што ж цяпер рабіць? Звяртацца ў аддзелы віз і рэгістрацый па месцы пражывання. Зноў браць і запаўняць анкеты і карткі. І чакаць. Колькі? Ніхто канкрэтна не ведае. Усё залежыць ад таго, якая нахлыне хваля. А яна чакаецца, асабліва ў першыя студзеньскія дні, сапраўды магутнай. Да таго ж спатрэбіцца час для правядзення спецыяльных праверак кампетэнтнымі органамі. На ўсё пойдзе прыблізна месяц. У некаторых выпадках менш, у іншых — больш.

**Уладзімір СТРЭЛЬСКІ,**
**Белінфарм.**

*"Народная газета"*

# БНФ рыхтуецца да выбараў

*"Свабода"*

**У суботу, 19 лістапада адбылося паседжаньне Сойму БНФ.**

Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык зрабілі паведамленьні аб палітычнай сытуацыі ў краіне, а сябры Сойму Ул.Анцулевіч і В.Чуйко спыніліся на некаторых акалічнасьцях арганізацыі будучай выбарчай кампаніі і перарэгістрацыі партыі БНФ згодна з новым заканадаўствам. Было адзначана, што бальшыня раённых радаў Народнага Фронту падрыхтавана да пачатковага этапу выбараў — вылучэньня прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі і вызначэньня канкрэтных асобаў, якія могуць балятавацца ў парлямант. Удзельнікі Сойму пацьвердзілі імкненьне да стварэньня дэмакратычнага блёку і да канструктыўнага дыялёгу з усімі палітычнымі сіламі, якія выступаюць за незалежнасьць Беларусі і рынкавыя рэформы.

Тымчасам працягваюцца паездкі прадстаўнікоў БНФ па Беларусі. У мінулыя выходныя Смаргонскі раён наведалі дэпутаты Вярхоўнага Савету Валяньцін Голубеў, Мікола Крыжаноўскі, Юрась Беленькі і старшыня Свабоднага прафсаюзу Генадзь Быкаў.

Яны сустрэліся з кіраўнікамі горада і раёну, мясцовымі прадпрымальнікамі, а таксама з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятарамі. Потым, падзяліўшыся на дзьве групы, госьці аб'ехалі восем вёсак і мястэчак раёну.

Як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ старшыня Смаргонскай філіі БНФ Віктар Шоць, пасьля гэтых сустрэчаў у раёне ўтварылася некалькі новых суполак Народнага Фронту. У вёсцы Солы, напрыклад, у суполку БНФ аб'ядналася 14 чалавек. А ўвогуле за гэтыя два дні раённая арганізацыя БНФ папоўнілася 60 чалавекамі. Сярод новых сяброў БНФ — галоўны ўрач бальніцы, намесьнік старшыні калгасу, дырэктары вясковых школаў, настаўнікі, дактары, рабочыя, сяляне.

**Яўген АЛАДКА**

## Іван ЦІТАВЕЦ

Абяцаў нам Лукашэнка:
"Цэнам быць ніжэй каленка".
Не прайшло і дзвюх начэй —
Падняліся да плячэй.

*

Хоць мароз і не пякучы,
Шапку зімнюю нашу,
Каб палітыкі на вушы
Меней вешалі лапшу.

*

На прыпынку доўга стыла,
Мерзла з сеткаю рука.
Час дарма не загубіла:
Развучыла гапака.

*

Паклялася шчыра сыну:
"Будзе новая машына".
Грошы трасца падкасіла,
Соску ўнучыку купіла.

*

Падавалі нам з экрана
Шмат хлусліваe вады,
А цяпер і днём, і ў ранак, —
Дзевак голыя зады.

*

Дзед Мароз! Жыццё бяжыць,
Дні праходзяць дарагія.
Навучы, дзядулька, жыць,
Як жывуць другія.

МІНСКАЯ ПРАЎДА



Алесь ЧОБАТ

# АРМІЯ КРАЁВА НА БЕЛАРУСІ

ЛіМ

АРМІЯ КРАЁВА — польская падпольная ваенізаваная арганізацыя, якая ў гады ІІ Сусветнай вайны дзейнічала на тэрыторыі Польшчы і падпарадкоўвалася польскаму эміграцыйнаму ўраду ў Лондане. Створана 14 лютага 1942 года і дзейнічала фармальна да 9 студзеня 1945 года. Але папярэднік АК "Саюз узброенай барацьбы" ("Звёнзэк валькі збройнэй") дзейнічаў з канца 1939 года, а асобныя арганізацыі і баявыя групы АК дзейнічалі на тэрыторыі Польшчы і СССР да пачатку 50-х гадоў.

Пасля 30 кастрычніка 1939 года да БССР была далучана Заходняя Беларусь — 4 млн. 815 тыс. чалавек; 98,4 тыс. кв. км, — якая да вайны ўваходзіла ў склад Польшчы. На большай частцы гэтай тэрыторыі ў 1939—56 гг. і дзейнічала Армія Краёва.

У 1941 годзе немцы занялі амаль усю Беларусь на працягу месяца. Да восені акупацыйная ўлада належала Вермахту, цывільную ж адміністрацыю немцы ўтварылі на падставе загада А. Гітлера ад 17 ліпеня 1941 года: паводле гэтага загада, акупаваныя тэрыторыі на ўсходзе зводзіліся ў Рэйхскамісарыяты "Украіна" і "Остлянд", апошні дзяліўся на генеральныя акругі, адной з якіх быў Генеральны Камісарыят "Беларусь".

Тэрыторыя Беларусі пад нямецкай акупацыяй падзялялася наступным чынам: Гродна, Ваўкавыск і Беласток — да Беластоцкай акругі Усходняй Прусіі, г. зн. непасрэдна да Рэйха; Брэст, Пінск, Мазыр, Рэчыца — да Рэйхскамісарыята "Украіна"; Ашмяны і Астравец — да Гебітскамісарыята "Літва"; астатняя тэрыторыя фармальна і складала ГК "Беларусь", аднак падраздзялялася на "цывільную зону" і "тылавую зону Арміі Цэнтр", дзе ўлада належала Вермахту і СС. Такім чынам, непасрэдна ГК "Беларусь" уключаў пад цывільным кіраваннем дзесяць акруг — Мінск, Барысаў, Слуцк, Баранавічы, Глыбокае, Ганцавічы, Ліда, Наваградак, Слонім, Вілейка — агульнай плошчай **53,66 тыс. кв. км і насельніцтвам 2 млн. 411 тыс. чалавек.**

Ваенна-палітычнае становішча ў ГК "Беларусь" было надзвычай заблытанае. Савецка-германская вайна вызначала асноўную вось супрацьстаяння: **савецкае падполле — акупацыйныя ўлады.** Але такі падзел найбольш характэрны для "Усходняй Беларусі" альбо БССР у межах да 1 верасня 1939 года. **На захадзе ж была вельмі заўважнай прысутнасць АК, якая мела свае задачы, што коратка фармулююцца так: аднаўленне Польшчы ў даваенных межах.** У розныя перыяды акупацыі АК выступала то супраць немцаў і "чырвоных", то на баку іх — і гэтак жа ваганіся адносіны да АК з боку акупантаў і савецкага падполля.

А калі яшчэ дадаць, што на баку немцаў дзейнічалі не толькі іх саюзнікі (венгры, славакі і г. д.), але батальёны ўкраінскай і літоўскай ды латышскай паліцыі, "мусульманскія", казацкія і іншыя дапаможныя адзінкі, РОА генерала Уласава ды беларуская дапаможная паліцыя і Беларуская Краёвая Абарона, то трэба прызнаць слушнай ацэнку становішча рэзідэнтурай СД у Мінску: **"тут пануе закон джунгляў"**... І як у любой партызанскай і контрпартызанскай вайне найбольшыя страты і ахвяры несла цывільнае насельніцтва.

## І. ЛЕТА 1941-га—ЛЕТА 1942-га.

З 17 верасня 1939 года да 22 чэрвеня 1941 Заходняя Беларусь разглядалася Масквой як асобая зона: фактычна існавала **"даваенная мяжа"**, для пераезду якой патрабаваўся дазвол, **"часовыя ўпраўленні"** пасля выбараў у Народны Сход былі ліквідаваныя і замененыя сістэмай Саветаў пад кантолем ВКП(б) — усяго 5 абласцей, 101 раён. Мясцовыя жыхары, нават камуністы і спачуваючыя, дапускаліся ў адміністрацыю вельмі абмежавана — ад тых часоў усталяваўся тэрмін **"васточнік"**; чалавек, які прысланы "кіраваць" з БССР ці з Расіі. "Сацыялістычныя пераўтварэнні" — нацыяналізацыя зямлі і сродкаў вытворчасці і г. д. — і замена польскай адміністрацыі савецкай выглядалі як антыпольскі тэрор. **Па асобных ацэнках, за два гады былі рэпрэсаваны (вывезены на ўсход, забіты ці арыштаваны) каля 300 тыс. чалавек.** Але рэпрэсіі не выклікалі масавага польскага тэрору ў адказ, адзначаны толькі асобныя акцыі палякаў, як напад на Скідзель летам 1940 года і расстрэл савецкіх работнікаў і інш. Польскае падполле да лета 1941 года мела пасіўны характар: хаванне людзей, наладжванне сувязей, разведка і г. д.

З ліпеня 1941 года сітуацыя стала мяняцца. **Па-першае,** у тых мясцінах, дзе савецкі тэрор быў найбольш жорсткі і масавы, насельніцтва ледзь не вітала немцаў, як... **вызваліцеляў!** Пра што сведчыць, напрыклад, рапарт разведкі ЗВЗ-АК з Беласточчыны. **Па-другое,** з цэнтральнай Польшчы і Віленшчыны, ратуючыся ад СС і літоўскіх "шаулісаў", сюды масава ўцякалі палякі. **Па-трэцяе,** першую дапаможную паліцыю і мясцовую адміністрацыю фарміраваў Вермахт, чые афіцэры выходзілі выключна з сіюмінутных патрэб і адбіралі "пацярпелых ад саветаў", лепш адукаваных, ведаючых па-нямецку і маючых адміністрацыйны вопыт — зразумела, што ў выніку даваенная "санацыі" беларусы раўняцца з палякамі тут не маглі, а таму практычна ўвесь акупацыйны апарат апынуўся ў руках палякаў!

**"На Беласточчыне амаль уся адміністрацыя ў руках палякаў. Акупант вяртае на працу тых, хто займаў гэтыя ж месцы да 1939 года..."**.

**"Апарат у Гродна — польскі. 72-асабовая служба парадку выключна з палякаў..."**.

**"У Вілейскім павеце з'явіліся дзіўныя шыльдачкі накшталт "Пастэрунэк Польскей Поліцыі Паньствовэй (Рэчы Паспалітай ці Рэйха, якой дзяржавы?! — Аўт.)..."**.

**"На беларускія абшары вяртаюцца польскія землеўладальнікі пад аховай нямецкай жандармерыі. Гэта выклікае канфлікты з сялянамі, у якіх адбіраюць былую панскую, а потым падзеленую калгасную зямлю, інвентар, коней. Пад Лідай дайшло да пратэстаў і нават сутычак. Жандары застрэлілі некалькі дзесяткаў чалавек..."**.

**"Немцы робяць выгляд, быццам "вяртаюць Польшчу", і гэтак распальваюць варожасць паміж палякамі і беларусамі..."**.

Гэта толькі асобныя вытрымкі з рапартаў контрразведкі СД, падпольнага і акупацыйнага друку, рапартаў АК, мемуараў. Зразумела, што палякі выкарысталі сітуацыю і паставілі ў паліцыю і адміністрацыю "сваіх людзей". Але гэта разумелі і немцы. Ужо з восені — гаўляйтэр ГК "Беларусь" В. Кубэ прыступіў у Мінску да выканання абавязкаў у верасні 1941 года — нямецкая адміністрацыя і СД спынілі расстрэлы на месцы на падставе даносаў "гэрр афіцэр, тэн чловек то большэвік!", а нават часам пад расстрэл трапляў сам паклёпнік. 22 кастрычніка распараджэннем В. Кубэ была створана "Беларуская Народная Самапомач" на чале з І. Ермачэнкам. **Нягледзячы на "культурнагаспадарчы" характар БНС, у значнай ступені яе паўстанне паўплывала на кадравую палітыку акупанта. У тую ж восень І. Ермачэнка атрымаў дазвол фарміраваць беларускую дапаможную паліцыю, пры гэтым немцы забяспечвалі яе зброяй, а вярбоўкай людзей займаўся апарат БНС на месцах.** Усё гэта прывяло да вострай канкурэнцыі ды ўзаемнага вынішчэння служачых немцам палякаў і беларусаў, але істотна падарваць польскі ўплыў у адміністрацыі і паліцыі не ўдалося. Таму з вясны 1942 года СД прыступіла да гэтак званай "Полен-акцыён" — чысткі ўсяго апарату ад "польскага падполля". На гэты час прыпадаюць масавыя арышты і расстрэлы палякаў у Навагрудку, Лідзе, Слоніме, Баранавічах. "Полен-акцыён" з рознай інтэнсіўнасцю праводзілася да лета 1943 года, калі немцы пачалі граць у "польскія карты". Тут трэба адзначыць, што дамагліся немцы адносна няшмат. Напрыклад, у Слонімскай акрузе за год "вычысцілі" больш тысячы палякаў — і адначасова каля пяцісот чалавек падалі заявы, што яны непраўільна "запісаныя палякамі" беларусы... З другога ж боку, нямецкі тэрор даў адмоўны эфект: з лета 1942 года фарміруюцца першыя баявыя атрады АК, часам яны базіруюцца яшчэ на гарады і мястэчкі, знікаючы "да лясу" толькі на час ажыццяўлення канкрэтнай аперацыі, але восенню і зімой 1942/43 году узнікаюць першыя рэгулярныя адзінкі АК. Летам жа 1942 года АК арганізуецца на Беларусі структурна і падзяляецца на чатыры аперацыйныя акругі: Віленская, Беластоцкая, Палеская і Наваградская.

## ІІ. АК І САВЕЦКАЕ ПАДПОЛЛЕ.

Арганізацыя партызанскага руху на Беларусі бярэ пачатак з дырэктывы ЦК КП(б)Б ад 29 чэрвеня 1941 года — немцы былі ўжо ў Мінску. На ўсходняй Беларусі для падпольнай работы было пакінута 6,3 тыс. камуністаў і камсамольцаў, позняй восенню партызанскія атрады налічвалі да 12 тыс. чалавек. Але да вясны 1942 года гэтыя атрады ў асноўным былі ліквідаваныя немцамі альбо часткова перайшлі фронт.

Рэгулярная партызанская вайна пачалася 30 мая 1942 года, калі пры Галоўным Камандаванні Чырвонай Арміі быў арганізаваны Цэнтральны Штаб Партызанскага Руху, а пазней яго пададдзел Беларускі Штаб Партызанскага Руху на чале адпаведна з першым і другім сакратарамі ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкам і П. Калініным. Такім чынам, **Масква адгэтуль разглядала партызан як рэгулярную армію ў тыле ворага** — за два наступныя гады праз лінію фронту перакінулі толькі афіцэраў і інструктараў 13 тысяч чалавек! А яшчэ 20 тыс. аўтаматычнай зброі, 60 тыс. вінтовак, 100 млн. набояў, 400 т выбуховых рэчываў, тысячы мін, сотні гармат і мінамётаў — узбраенне дзесяці (!) пяхотных дывізій.

У канцы 1942 года на тэрыторыі даваеннай БССР дзейнічала 56,5 тыс. партызан, але з іх на тэрыторыі ГК "Беларусь" — толькі 11 тыс. чалавек, пры гэтым большасць пад Мінскам і Барысавам. На Заходняй жа Беларусі, па-за асобнымі невялікімі групамі, савецкіх партызан амаль не было: **калі на Усходзе на 10 тыс. цывільнага насельніцтва было 140—150 партызан, то на Захадзе не больш 20.** І вось з вясны 1942 года СД стала са здзіўленнем адзначаць факты савецка-польскага супрацоўніцтва ў ГК "Беларусь".

Яшчэ 30 ліпеня 1941 года ў Лондане быў падпісаны савецка-польскі ўклад паміж паслом СССР у Вялікабрытаніі І. Майскім і прэм'ерам польскага эміграцыйнага ўрада В. Сікорскім, які прадугледжваў, што **Польшча і СССР знаходзяцца ў становішчы вайны з Германіяй, а таму з'яўляюцца натуральнымі саюзнікамі;** справа ж савецка-польскай граніцы і інш. спрэчныя пытанні мелі быць вырашаны пазней. 3—4 снежня 1941 года ў Маскве адбыліся размовы В. Сікорскага і І. Сталіна — В. Сікорскі падкрэсліў, што граніца 1939 года не можа быць зменена; І. Сталін згадзіўся з тым, што Львоў належыць да Польшчы і што пра граніцы будзем гаварыць, як толькі армія генерала Андэрса пойдзе ў бой, але што СССР хацеў бы пачаць размовы "ад лініі Керзона"...

Такім чынам, на пытанне, каму будзе належаць Заходняя Беларусь, яснага адказу не было. Лондан перадаваў інструкцыі, што з "саветамі" ёсць пагадненне; Масква ж загадвала імкнуцца перацягваць польскія аддзелы непасрэдна пад савецкае аператыўнае камандаванне, а калі не — то не перашкаджаць ім і захоўваць нейтралітэт. **Сам сабе савецкі бок лічыў Заходнюю Беларусь савецкай тэрыторыяй, а польскі — польскай, аднак з прычыны слабасці абодвух партызанак прыблізна да вясны-лета 1943 года да адкрытых сутычак паміж імі не даходзіла.** Хоць і супольныя дзеянні таксама былі эпізадычныя.

Так, у лістападзе 1942 года начальнік Браслаўскага павета Васілеўскі і яго намеснік Кавалеўскі перадалі 2 кулямёты, 7 карабінаў і др. зброю савецкаму артаду "Спартак". Летам і восенню 1942 года адзначана паўтара дзесятка супольных акцый савецкіх і польскіх партызан на нямецкія пастарункі; тады ж вызначаліся "савецкія" і "польскія" вёскі, зоны ўплыву, калідоры і г. д. **Палітыку на месцы рабілі палявыя камандзіры. Несумненна інспіраванай праз Маскву была змена накірунку савецкага тэрору: у СД адзначалі, што прыблізна з мая 1942 года савецкія партызаны знішчалі паліцэйскіх, настаўнікаў, служачых і г. д. беларусаў і ашчаджалі палякаў!** Нагадаем, што працягвалася "Полен-акцыён" — і такое рашэнне савецкага камандавання было яўна дэманстрацыйным: вось якія мы, а вось якія немцы... І ўсё ж **апошняя** супольная савецка-польская аперацыя адбылася **ўжо вясной 1943 года** — разгром нямецкага гарнізона ў Жалудку на Шчучыншчыне. Потым наступіў разлад, які перайшоў у адкрытую вайну...

У жніўні 1942 года па патрабаванні англічан з СССР на Бліжні Усход была выведзена 75-тысячная польская армія генерала Андэрса. У красавіку 1943 года, у выніку выйсця на свет расстрэлаў НКВД польскіх афіцэраў у Катыні, былі разарваны савецка-польскія дыпламатычныя адносіны. 4 ліпеня 1943 года ў авіякатастрофе над Гібралтарам загінуў генерал В. Сікорскі.

22 чэрвеня 1943 года пленум ЦК КП(б)Б прыняў пастанову "Аб ваенна-палітычных задачах працы ў заходніх абласцях Беларусі", якую варта прывесці цалкам:

**"1. Заходнія вобласці Савецкай Беларусі з'яўляюцца неад'емнай часткай рэспублікі. На тэрыторыі БССР, акупіраванай Германіяй, дапускаецца дзейнасць толькі тых груп, арганізацый і атрадаў, якія кіруюцца інтарэсамі СССР.**

**2. Існаванне разнастайных арганізацый, якімі кіруюць польскія буржуазна-нацыяналістычныя цэнтры, трэба разглядаць як незаконнае ўмяшанне ў інтарэсы нашай Айчыны.**

**3. Нашай найпершай задачай ёсць шырокае развіццё партызанскага руху (увага: тут прызнана, што першыя два гады савецкай партызанкі на Заходняй Беларусі не толькі амаль не было, але да гэтай пастановы ЦШПР і не думаў яе развіваць! — Аўт.), далучэння да яго ўсіх слаёў насельніцтва, у тым ліку палякаў. Атрады і групы, створаныя польскімі рэакцыйнымі нацыяналістычнымі коламі, неабходна ізаляваць ад насельніцтва шляхам стварэння сярод польскіх працоўных савецкіх атрадаў і партызанскіх груп.**

**4. Неабходна ўсялякімі сродкамі весці барацьбу супраць польскіх буржуазна-нацыяналістычных атрадаў..."**.

Тым жа летам 1943-га лонданскі польскі ўрад і Галоўная Камендатура АК у Варшаве выдалі загад **"не ваяваць разам з "саветамі", але ім не перашкаджаць"** ("**не вспулдзялаць разам з советамі, але ім не пшэшкадзаць!**").

І яшчэ тым жа летам, за подпісамі П. Панамарэнкі і П. Калініна, выйшлі адзін за адным **тры загады — першы: "спыніць супрацоўніцтва з АК"; другі: "нейтралізаваць палякаў у нашых (!) атрадах; трэці: "разброіць сілы АК на нашай тэрыторыі"** — апошняе азначала адкрытую вайну.

Дзеля выканання дырэктывы летам і восенню 1943 года на Заходняй Беларусі з'явілася 9 брыгад, 10 асобных атрадаў і 15 дыверсійных груп, перакінутых з усходу і з-за фронту — **гэта значыць, па атрадзе альбо групе на адзін даваенны адміністрацыйны раён!** За год замест 10 падпольных райкомаў ВКП(б) стала 87; выдавалася 14 газет, з іх 4 па-польску; пры кожным атрадзе рэкамендавалася мець некалькі палякаў альбо заходніх беларусаў, ведаючых па-польску і г. д. У канцы 1943 года на Заходняй Беларусі савецкіх партызан было 37 тыс. чалавек — у тры разы больш, чым год назад.

Тым часам, па смерці генерала В. Сікорскага, рэальная ўлада ў Лондане перайшла да Начальніка Збройных Сіл генерала К. Соснкоўскага, які 5 кастрычніка 1943 года перадаў камандзіру АК у Варшаве генералу Т. Камароўскаму (пс. "Бор"), што неабходна лічыцца з **трыма варыянтамі** развіцця сітуацыі:

— альбо будуць узноўлены дыпламатычныя адносіны паміж польскім эміграцыйным урадам і ўрадам СССР, і тады **паўстанне супраць немцаў будзе ўзгоднена з савецкім камандаваннем, а цывільная ўлада пасля паўстання пяройдзе да палякаў;**

— калі ж нямецкі фронт разваліцца раней, то ўлады АК абавязаны пачаць паўстанне самастойна і **аднавіць польскі кантроль над даваеннай тэрыторыяй, не дапускаючы туды ніякіх войск;**

— калі ж дойдзе да спынення агню паміж СССР і Германіяй, **трэба заставацца ў падполлі і чакаць на рашаючы ўдар** пасля перамогі саюзнікаў на Захадзе Еўропы...

Такім чынам, аж у 1943 годзе польскае камандаванне на Захадзе і Галоўная Камендатура АК у Варшаве лічыліся з магчымасцю савецкай акупацыі і "вяртання ў падполле", не адкідаючы, аднак, і магчымасцей супрацоўніцтва з "саветамі". Гэтая **раздвоенасць** будзе вісець над палякамі ў апошні год нямецкай акупацыі і адальецца ім вялікай крывёй.

## III. АК І НЯМЕЦКІЯ АКУПАНТЫ.

Калі восенню 1943 года быў забіты гаўляйтэр ГК "Беларусь" В. Кубэ, новага гаўляйтэра А. Гітлер не прызначыў — у такіх выпадках, паводле пастановы ад ліпеня 1941 года, уся ўлада пераходзіла да начальніка СС і паліцыі, гэта значыць, да генерала К. фон Готберга. Дарэчы, ёсць версія, што падначаленае Готбергу мінскае СД ведала пра падрыхтоўку замаху на Кубэ, але дазволіла падполлю ажыццявіць гэту акцыю...

Готберг ва ўмовах узмацнення савецкай партызанкі ды аслаблення нямецкіх акупацыйных сіл, — на дзве дывізіі аховы і дзве брыгады СС у параўнанні з 1942 годам, — павінен быў пашукаць другога выйсця. Так, ад восені 1943 года немцы пачалі аточваць партызанскія зоны "ўмацаванымі вёскамі", асельваючы паліцэйскіх з эвакуіраванай з-пад Бранска 7-тысячнай брыгады СС Камінскага, казакаў, "мусульман", "шаулісаў" і г. д. Былі адноўлены беларускія паліцэйскія батальёны, арганізацыя якіх спынілася вясной 1942-га ў сувязі з канфліктам Готберг — Кубэ, а 23 лютага 1944 года немцы абвясцілі мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону. Дарэчы, новых паплечнікаў шукалі сабе не адны немцы — штаб П. Панамарэнкі таксама змяніў тактыку: калі раней праводзіўся ў жыццё шляхам тэрору лозунг "Смерць здраднікам!", то цяпер абяцалася дараванне тым, хто "часова" паддаўся і пайшоў служыць ворагу, абвяшчалася г. зв. "усенародная вайна"... На працягу 1943 года на бок партызан перайшлі тысячы людзей з паліцэйскіх і дапаможных адзінак: беларусы, "мусульмане", рускія, славакі, казакі і г. д. На бок партызан перайшла, між іншым, **паліцэйская 2,5-тысячная брыгада М. Гіль-Радыёнава**, якая атрымала назву "І-й Антыфашысцкай", хоць раней запэцкала рукі ў крыві па локаць, удзельнічаючы ў карных аперацыях.

У пошуках саюзнікаў немцы з асабістай ініцыятывы К. фон Готберга сталі шукаць падтрымкі камандзіраў АК. Трэба сказаць, што, нягледзячы на невялікі вайсковы здабытак, патэнцыяльна АК уяўляла сабой значную сілу. Ад зімы 1939-40 гадоў структуры АК фарміраваліся ў наступнай паслядоўнасці: камандаванне зоны; камандаванне акругі; разведка; мясцовая адміністрацыя; атрады мясцовай самаабароны; дыверсійныя групы; "оддзялы тэрэновэ" (атрады ў 100—150 чалавек з базіраваннем у лесе); батальёны і брыгады. Паколькі АК мела дэфіцыт зброі, — англічане не скідвалі грузаў за "лінію Керзона", уважаючы Беларусь за савецкую тэрыторыю, — **то ў рэзерве АК было ў 8-10 разоў больш людзей, чым у лесе!** Канцэпцыя камандавання АК грунтавалася на падзеях 1918 года, калі ў Германіі наступіў палітычны крызіс і стала магчымым узброенае паўстанне — гэтаксама, лічылі ў ГК АК і ў Лондане, будзе і цяпер. Таму стратэгічны план АК прадугледжваў збіранне сіл і ўдар "у адпаведны момант". Што праўда, генерал К. Соснкоўскі лічыў, што без дамовы з СССР паўстанне не мае сэнсу, але большасць урада спадзявалася на англа-амерыканцаў, а таму ў 1943 годзе начальнік ГК АК Т. "Бор"-Камароўскі выдаў агульную канцэпцыю плана "Бура", якая прадугледжвала тры этапы: папершае, здабыванне зброі; па-другое, канцэнтрацыя і мабілізацыя рэзерву; па-трэцяе, паўстанне. Не трэба казаць лішні раз, што немцы цудоўна ведалі, чым спакусіць камандзіраў АК! Гэта была зброя.

9 снежня 1943 года камандзір Стаўбцоўскага злучэння Наваградскай акругі АК **капітан Адольф Пільх (псеўданім "Гура")** падпісаў з немцамі пагадненне, адпаведна якому да канца акупацыі атрымліваў ад іх зброю і амуніцыю. 24 снежня 1943 года ў Лідзе аналагічнае пагадненне з немцамі падпісаў камандзір Надзёманскага злучэння **паручнік Юзэф Свіда (пс. "Лех")**, які толькі за студзень, люты і сакавік 1944 года атрымаў ад немцаў пяць транспартаў зброі. Санкцыю на змову з немцамі даў камандзір Наваградскай акругі АК **падпалкоўнік Я. Праўдзіц-Шляскі (пс. "Барсук"). Такія дзеянні працягваліся і далей, нягледзячы на тое, што 17 студзеня 1944 года ГК АК у Варшаве катэгарычна забараніла любыя кантакты з немцамі.**

19 студзеня 1944 года адбыліся размовы (у Вілейцы) камандзіра Віленскай акругі АК **палкоўніка Аляксандра Крыжаноўскага (пс. "Дземідо", "Вільк")** з супрацоўнікам мінскага СД Зэйдлерам, які прапанаваў АК ачысціць вызначаныя раёны ад савецкіх партызан у абмен на бесперапыннае забеспячэнне зброяй, амуніцыяй і г. д. Пазней размовы працягваў шэф вілейскага СД Гравэ. Аднак палкоўніка перахапіў больш спрытны маёр абвера, прадстаўнік армейскай разведкі ў Літве Ю. Хрысціянсен, які прапанаваў А. Крыжаноўскаму перадаць зброю... увогуле без пісьмовага пагаднення! Маёр і палкоўнік дамовіліся, што немцы створаць у малых вёсках цэлую сетку складоў зброі і амуніцыі пад слабай аховай, а атрады АК па ўзгадненні з Вермахтам месца і часу будуць на гэтыя склады "нападаць" і атрымліваць зброю — "здабываць у баях"! Такая сістэма бесперапынна дзейнічала да пачатку лета, а ўжо першага сакавіка на нарадзе ў Мінску генерал СС К. фон Готберг самазадаволена заявіў, што "на наш бок перайшлі тры польскія банды і ваююць з чырвонымі" — несумненна, меліся на ўвазе злучэнні Ю. Свіды-"Леха" ды А. Пільха-"Гуры" з Наваградскай і брыгада З. Шэндзеляжа-"Лупашкі" з Віленскай акругі АК.

**Зброю трэба было адпрацоўваць — і яе адпрацоўвалі. За час ад канца 1942 года да канца нямецкай акупацыі сілы Наваградскай акругі АК правялі 81 аперацыю супраць партызан (102 супраць немцаў), пры гэтым Стаўбцоўскае злучэнне А. Пільха-"Гуры" супраць немцаў амаль не дзейнічала, а вось супраць "чэрвоных" правяло 32 аперацыі... Дарэчы, баі супраць "немцаў" у большасці былі нападамі на пастарункі паліцыі (беларускай, літоўскай і г. д.), РОА ці БКА, а таксама вынішчэнне цывільных служачых. Так, той жа А. Пільх-"Гура" сцвярджае, што яго людзі знішчылі 6 тысяч (!) "здрайцув", Наднёманскае злучэнне Ю. Свіды-"Леха" тых "здрайцув" ліквідавала каля 1,5 тыс. чалавек, а толькі на загад штаба Наваградскай акругі Я. Праўдзіца-Шляскага было расстраляна больш за 300 чалавек.**

Актыўнасць АК супраць немцаў да восені 1943 года абмяжоўвалася нападамі на асобныя патрулі і пастарункі з мэтай здабывання зброі, а таксама адбіцця арыштаваных суайчыннікаў. Калі ж зімой 1944 года немцы далі зброю самі, то антынямецкія атакі АК спыніліся амаль да лета 1944 года; калі пачалася аперацыя "Бура", тады і былі разбіты буйныя гарнізоны немцаў у Жалудку, Шчучыне, Скрыбаўцах, Солах і г. д.

З найбольш антынямецкіх атрадаў АК на правым беразе Нёмана выдзяляўся VIII УБК (восьмы "ўдэжэнёвы батальон кадровы") каменданта Б. Пясецкага (пс. "Саблеўскі"). Батальёны "Удэжэне" ("Удар") фарміраваліся з 1942 года ў наваколлях Варшавы на базе вайсковай арганізацыі партыі "Канфедэрацыя Народа". Палітычная канцэпцыя КН звязвала будучае Польшчы з федэрацыяй народаў ад Балтыкі да Чорнага мора і Адрыятыкі, пры гэтым у бягучай палітыцы арыентавалася на рашучую барацьбу з Германіяй і нейтралітэт ці нават саюз з Расіяй. **Паколькі гэта лінія істотна адрознівалася ад АК-оўскай канцэпцыі "двух ворагаў" і "чакання на зручны момант", то КН увайшла ў склад АК з правам аўтаноміі ў справах прапаганды і агітацыі, а атрады КН Галоўная Камендатура АК скіравала пад Ліду, "на крэсы".** З кастрычніка 1942 года да пачатку 1944 года КН паслядоўна накіравала на ўсход сем атрадаў, прычым з адносна малымі стратамі дайшоў толькі апошні, VII-мы. З яго ды з рэшткаў IV-га і VI-га Б. Пясецкі-"Саблеўскі" і сфарміраваў VIII УБК, які меў базу ў раёне Н. Двор — Васілішкі, а потым у раёне Суботнікаў.

(Працяг будзе.).

Прысылайце нам новыя адрысы людзей, якія ўмеюць чытаць пабеларуску...

# Conflict Erupts Over Sale of Missile Complex

Larisa SAYENKO,

*MN Bureau, Minsk*

There is controversy over what exactly Belarus sold to the United States. Belarussian authorities maintain that only a part of an S-300 missile complex — the control cabin — was sold.

It is an ordinary cabin and it is of no strategic value, Belarus's Defense Minister Anatoly Kostenko told *MN's* correspondent.

President Alexander Lukashenko of Belarus indirectly confirmed last week that an aircraft with a missile complex aboard had landed in the American state of Alabama. The sale was announced at the Supreme Soviet by Sergei Antonchik, member of the opposition Belarussian Popular Front in a report "On corruption in the president's staff," with all the assumed implications. In his response, Lukashenko declared that the sale of a part of the complex became possible after the written conclusion of Russian military experts that the deal does not expose Russia's strategic defense secrets. Under the contract, medicines have been bought with the money received (over $6 million).

Anatoly Lebedko, the president's adviser for foreign policy affairs, maintains that Russian-Belarussian relations will not change after the completion of the deal. Even if the firm "Beltekhexport" violated certain commercial plans of their Russian colleagues, the leadership of Belarus was convinced that no harm was caused to Russian strategic secrets.

According to unofficial information from sufficiently reliable sources the sale of the missile complex is a Belarussian-Russian deal. The Russian side granted a third of the complex and the Belarussian side two thirds. Thus, the complex will be assembled in Alabama. No doubt, from both sides the sale was sanctioned at the highest level. A confidential source confirms that Lukashenko had coordinated the sale of his part at least at the level of the Russian government.

Belarus's former defense minister, General Pavel Kozlovsky,- who opposed the sale of the complex, still maintains his position. He is convinced that "the existence in Belarus alone of three private, competing companies dealing in arms instead of one state company inevitably paves the ground for secret financial deals."

# *Bóg się rodzi na Białorusi...*

Bóg się rodzi na Białorusi dzięki ludziom wielkiego serca. Kochani, tak się cieszę, że znów do Was piszę. Dzisiaj po pięciu latach pobytu w Mohylewie, pragnę Wam podziękować.

Najpierw za swoje kapłaństwo. Moja rodzina po wojnie z Zadroża woj. witebskie przyjechała do Świdwina woj. koszalińskie. To dzięki Wam mówi tak jak Wy, myślę tak jak Wy, co więcej, zostałem księdzem. Teraz wróciłem, żeby swoim braciom głosić Ewangelię.

Największy cud jaki widziałem u nas, stał się dzięki ludziom wielkiego serca. To Wy zapraszacie nasze dzieci do swoich rodzin. Przepraszam za kłopot z tymi dziećmi. Ale one już inne wracają do swoich rodzin. Przychodzą na spotkania do sali w wieży kościoła. Do katedry przyprowadzają swoje koleżanki, kolegów. Raz patrzę: mała dziewczynka prowadzi tatusia do kościoła, uczy go uklękać, składa mu ręce, bo on pierwszy raz jest w kościele.

Dzięki temu, że co roku do Mohylewa przyjeżdżają różne grupy modlitewne, młodzieżowe, kapłani, siostry zakonne, klerycy, dotarliśmy już do wszystkich zakątków, gdzie są katolicy w województwie mohylewskim. W Mścisławiu jest zniszczony kościół, powstała parafia i dojeżdża 100 km ksiądz z Mohylewa. W Szkołowie też jest już parafia i mamy ruiny kościoła, które zostały.



Jeździmy jednak i tam, gdzie nie ma świątyń. Modlimy się po domach lub na cmentarzu, gdyż ludzie z Chocimska do Mohylewa mają 200 km. Żeby ułatwić życie katolików we wschodniej części Białorusi, trzeba już na Boże Narodzenie mówić, kiedy przypada w tym roku Wielkanoc. Chorzy i starzy ludzie mogą tylko dwa razy w roku pokonać takie duże odległości do świątyni. Do ciągle odnawianej katedry przychodzą ludzie głodni chleba powszedniego i chleba duchowego i dzięki temu, że dzielicie się z biedniejszymi wracają do domu pokrzepieni i uśmiechnięci.

Na zakończenie pragnę podziękować, za "największy skarb" — dar modlitwy. Ona uprasza zagubionym ludziom łaskę wiary.

Wszystkim zgromadzonym przy wigilijnym stole życzę długiego życia, dobrego zdrowia, pomyślnego zrealizowania swoich planów, a nade wszystko łask od Dzieciątka Jezus.

Uroczystą Sumę w Boże Narodzenie i Nowy Rok odprawię w intencji wszystkich naszych Dobrodziejów.

**Ks. Blin Władysław**

Dziennik Zw.

Вельмі цікава... Гэта што, а. Блін, каб быць больш смачнейшым і тлусьцейшым шукае польскага масла ў Чыкага? А можа гэта — свой да сваіх па сваё?... Як нам цяпер не хапае кс. Адама Станкевіча, В. Гадлеўскага ды ім падобных!..

---

Ад Рэдакцыі:

Пры перасылцы грашовых переказаў, калі ласка, пішыце на чэках: N. Prusky/Belarusian Digest. Або толькі: N. Prusky. Гэта аблегчыць нам банкаўскую працэдуру...

*Васіль БЫКАЎ*

# МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ

Эсэ

(Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэсту")

(Заканчэньне, пачатак глядзі ў папярэднім №)

Кампанія літаратурна-палітычнага астракізму цягнулася доўга, ня месяцы — гады. Жывучы ў той час у правінцыі, у абласным месьце Гародні, аўтар поўнаю мерай зазнаў яшчэ і мясцовую кампанію прасьледваньняў на месцы працы, біцьця вокнаў у кватэры, арганізаванага КДБ нападу хуліганаў на вуліцы. Пачаліся частыя выклікі ў КДБ, часам на працу ў рэдакцыю прыязджаў апэратыўны афіцэр дзяржбясьпекі, які праводзіў доўгія гутаркі-допыты, галоўнаю мэтаю якіх было дабіцца ад аўтара прызнаньня ў зробленым ім літаратурным злачынстве. Калі таго не ўдалося, кіраўніцтва КДБ ужыло болей радыкальныя меры. З ліку блізка знаёмых аўтару асобаў было завербавана некалькі сэксотаў, дзякуючы даносам якіх дзяржбясьпека пачала фармаваць крымінальную справу. Апошнім актам яе стаў выклік аўтара ў рэспубліканскае ўпраўленьне бясьпекі, дзе кадэбісцкі генэрал эфэктна распавёў быль ці то прытчу з уласнае практыкі. Сутнасьць яе была ў тым, як група партызанаў пад кіраўніцтвам пакарала калабаранта з Палесься па прозьвішчы Быкаў(?). "Стоячы каля лямпы я ўмазаў яму ў вуха з маўзэра, толькі мазгі паляцелі па бярвеньню сьцяны". Сэнс тае страшнае сцэны быў надта зразумелы аўтару, ад якога дамагаліся ўжо, апрача пакаяньня, і пэўнай паслугі. А менавіта: па матэрыялах КДБ напісаць аповесьць пра чэкістаў пэрыяду вайны, натуральна, у іхняй трактоўцы і пад іхнім кантролем. Аўтар адмовіўся.

Між тым прасьлед працягваўся. У Беларусі знайшоўся толькі адзін літаратурны часопіс, які друкаваў Быкава. Гэта была ўсё тая-ж "Маладосьць' Пімена Панчанкі. Аднак і Панчанку тое давалася ня проста, хоць свой рэдактарскі абавязак ён выконваў высакародна, без скаргаў. Таксама стойка нёс свой рэдактарскі крыж і А. Твардоўскі, які вусна і пісьмова падтрымліваў аўтара, нават прапанаваў яму грашовую дапамогу праз заключэньне дамоўленасьцяў на яшчэ не напісаныя творы. Аўтару не давялося пакарыстацца гэтай прапановай, хоць патрэба ў такога роду падтрымцы была не малая. У Саюзе кнігу не выдавалі, а шматлікія замежныя выданьні не прыносілі ні капейчыны прыбытку: савецкі ўрад дальнабачна ўхіляўся ад падпісаньня выдавецкай канвэнцыі, тым пазбавіўшы савецкіх аўтараў іх валютных ганарараў. Замежным-жа аўтарам у Маскве ганарар выплачваўся з выбарам: глядзячы каму. Аўтары-камуністы і пэўным чынам арыентаваныя аўтары карысталіся вялікаю шчодрасьцю савецкіх выдаўцоў.

Пісьменьніцкая грамадзкасьць Беларусі вяла рэагавала на расправу над літаратурным братам, як звычайна абмяжоўваючыся кулуарнымі размовамі з повад найбольш адыёзных выступленьняў мясцовай ды маскоўскай прэсы. Пэнцэнтраў у тыя гады у нас ня было, а Саюз пісьменьнікаў, якім кіравалі партыйныя стаўленьнікі, не праяўляў вялікай актыўнасьці. (Можа, і добра, што не праяўляў, бо няцяжка зразумець, якой бы была тая актыўнасьць). І тады некаторыя з сяброў аўтара (паэты Г. Бураўкін, А. Вярцінскі), рызыкуючы ўласнай партыйнай рэпутацыяй, арганізавалі збор подпісаў у абарону апальнага літаратара, зьвярнуліся з лістом у ЦК. Якого-небудзь рэагаваньня на той ліст, вядома, ня было, але факт пісьменьніцкай салідарнасьці сам па сабе быў надзвычай важны. Пісьменьнікі з іншых месцаў, знаёмыя і незнаёмыя, таксама выказалі Быкаву свае словы падтрымкі і суцяшэньня. Сярод іх былі В. Някрасаў, К. Кулієў, Д. Гранін, К. Сіманаў, В. Каверын, М. Пархомаў, М. Бажан, С. Сьмірноў, У. Тэндракоў. Прыслаў суровы і мужны ліст А. Салжаніцын і нават хто-колечы з высокіх вайсковцаў, напрыклад камандуючы Закаўказкай вайсковай акругай генэрал арміі А. Стучэнка. Іх разуменьне і падтрымка запомніліся надоўга і ўмацавалі ўпэўненасьць аўтара ў абраным ім накірунку праўды, як-бы да яе ні ставіліся партыйныя ўлады.

Аўтар працягваў працаваць усё ў той-жа злашчаснай тэме вайны, не пазьбягаючы, аднак, яе вастрыні і канфліктнасьці. Былі напісаны аповесьці "Праклятая вышыня", "Круглянскі мост", якія таксама надрукаваў А. Твардоўскі. І пасьля кожнай публікацыі пачынаўся крытычны гвалт, уцягваючы ў сябе ўсё новыя друкаваныя органы. Асабліва вызьвяраліся часопісы "Советский воин", "Коммунист", "Огонек", некаторыя беларускія газэты і часопісы. "Огонек" выпускаў падборкі артыкулаў і лістоў былых партызанаў (аднойчы — разгромны артыкул двойчы героя Савецкага саюзу Фёдарава), якія абвінавачвалі аўтара ўсё ў тым-жа — "паклёпе на савецкі народ, узброеныя сілы і родную камуністычную партыю". Пра выданьне "Мёртвым не баліць" асобаю кніжкаю не магло быць і гутаркі, асабліва пасьля таго, як заходнебэрлінскае выдавецтва "Прапілеен" выпусьціла яе пераклад на нямецкай мове. З Бэрліну прыйшло чатыры асобнікі выдатна афармленай кнігі і цёплы ліст спадара Вольфа Сідлера, але гэта было ўсё, што КДБ дазволіла пераслаць аўтару. Далей усякая сувязь паміж ім і выдаўцом была прыпынена. У наступныя гады кніга была перакладзена на шматлікія мовы Эўропы ды Азіі, выдадзена таксама ў Амэрыцы (дарэчы, і ў перакладзе на ўкраінскую мову), але ў Савецкім саюзе не паяўлялася. Каб не зьявілася і надалей, за тым пільна сачыў ЦК КПСС у асобе ўсё таго-ж Сеўрука, які неўзабаве стаў намесьнікам загадчыка ідэялагічнага аддзела ды куратарам Галоўліту — літаратурнай цэнзуры Саюза.

У. Сеўрук, гэты злы геній нашай літаратуры, якога можна параўнаць толькі з сумна вядомым Бэндэ, ажыцьцяўляў сваю ўвагу над ёй старанна аж да пачатку перабудовы, калі /здаецца, у 1989 г./ быў пераведзены ў газэту "Известия". Пра яго і ягоную барацьбу з аповесьцю можна распавядаць шмат, тут, аднак, зазначу, што працягам прыкладна дваццаці гадоў забаранялася ня толькі выданьне-перавыданьне аповесьці, але нават які-небудзь напамінак пра яе. І калі крытык В. Аскоцкі ў пасьляслоўі да адной кнігі, выдадзенай "Дружбой народов", напісаў колькі фразаў пра "Мёртвым не баліць", увесь наклад кнігі па камандзе Сеўрука быў вернуты ў друкарню, дзе з кожнага асобніка выдралі па чатыры старонкі тэксту, замест якіх уклеілі новую старонку. Гаворка пра "Мёртвых не баліць"з кнігі зьнікла, і няважна, што кніжныя старонкі не стыкаваліся. Зрэшты, адносіны партбюракратыі да гэтай аповесьці былі перанесены на іншыя творы апальнага аўтара. Крытычнаму астракізму падвергласяўсё, што выходзіла з-пад пяра В. Быкава і друкавалася ў "Новом мире", які працягваў выдаваць А. Твардоўскі. Пасьля таго, як ён пайшоў з часопіса і хутка памёр, я перастаў там друкавацца, пачался супрацоўніцтва з часопісам "Дружба народов", дзе некалі была надрукавана мая першая аповесьць на рускай мове "Трэцяя ракета". Аднак пільнае вока Сеўрука не абмінула і гэты часопіс. Пад ціскам ЦК быў дужа панявечаны мой новы твор — аповесьць "Знак бяды", ужо напачатку перабудовы апублікаваны гэтым часопісам. Выхад яе асобаю кніжкаю ў выдавецтве "Молодая гвардия" апынуўся пад пагрозай. Усё той-жа Сеўрук, карыстаючыся неабмежаванай цэкоўскай уладай, выклікаў кіраўніцтва выдавецтвам для вымовы за "кепскае" рэдагаваньне твору Быкава. У палітычным клімаце краіны, аднак, ужо павеяла зьменамі, і аповесьць усё-ж выйшла, хоць і са стратамі — без аднаго вельмі важнага разьдзелу пра раскулачваньне на беларускай вёсцы.

"Мёртвым не баліць", якая абышла сьвет, усё не выдавалася кніжкай на рускай мове, і калі дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў Менску паспрабаваў уключыць яе ў збор твораў, усчаўся гвалт. Дырэктар, сумленны чалавек М. Дубянецкі ў роспачы паслаў гнеўную тэлеграму галоўнаму ідэёлагу партыі М. Суславу, за што быў падвергнуты жорсткім прасьледваньням, атрымаў інфаркт, быў адпраўлены на пэнсію і хутка памёр. У. Сеўрук, між тым, працягваў пільна апекавацца літаратурай. У арбіту яго паліцэйскай увагі трапіў і Алесь Адамовіч, выдатны беларускі пісьменьнік і навуковец. Публікацыі твораў пісьменьніка затрымліваліся, артыкулы выкідваліся з часопісаў, паездкі за мяжу зрываліся — і ўсё праз Сеўрука. Не стрываўшы самаўпраўства высокапастаўленага сатрапа, мы з Адамовічам напісалі скаргу на імя генэральнага сакратара партыі М. Гарбачова і пачалі з нецярпеньнем чакаць адказу. Але замест таго былі выкліканы ў ЦК КПБ, дзе нам паказалі паперу з загадам менскаму сакратару ЦК прыняць строгія меры да "зласьліўцаў і пляткароў", якія пасягнулі на аўтарытэт адказнага работніка ЦК партыі таварыша Сеўрука. Кола замкнулася, скардзіцца ня было каму. Адамовіч неўзабаве пераехаў у Маскву, пакінуўшы ў Менску акадэмічны інстытут літаратуры, дзе плённа працаваў шмат гадоў. Аўтару гэтых радкоў ехаць ня было куды — ён мусіў чакаць і спадзявацца. Што-ж тычыцца няшчаснай аповесьці, дык яна выйшла нарэшце асобным выданьнем толькі ў 1989 годзе, замаскаванай за іншы, больш позьні твор і нават без назвы на вокладцы і на тытуле. Праз чвэрць стагодзьдзя пасьля яе напісаньня, на чацьвертым годзе перабудовы. Як і раней, усё моцны быў ціск над літаратурай ды страх выдаўцоў перад партыйнай наменклатурай, якая тады пачала пераходзіць у Саветы.

Грамадзтва марудна, з перапынкамі вызваляецца ад шматгадовых таталітарных комплексаў. Ужо выдадзены "Архіпелаг Гулаг" А. Салжаніцына, "Дзеці Арбата" А. Рыбакова, "Споведзь" Л. Геніюш, творы Аляхновіча, Мрыя ды іншых. Здавалася-б, мы ўжо даведаліся, калі не пра ўсё, дык шмат пра што з нашага праклятага мінулага, а тыя, ад каго залежала галоснасьць, усё яшчэ выдавалі порцыямі праўду, старанна перамешваючы яе з хлусьнёю. Кіруючая партыя да свайго самага апошняга дня ў жніўні 1991 году кіравала, накіроўвала і падаўляла. Пацярпеўшы паразу ў стратэгічным кіраўніцтве эканомікай, яна спрабавала ўзяць рэванш у ідэялёгіі ды культуры. Сеўрук да жнівеньскага путчу працаваў рэдактарам маскоўскай "Недели", а пасьля перабраўся ў Беларусь, якую перад тым як памерці, незабыўны Алесь Адамовіч ахрысьціў беларускім Парагваем, запаведнікам камунізму. Такой яна і застаецца дагэтуль. Імпэрская сьвядомасьць, што ўкаранілася ў галовах шмат якіх пакаленьняў, наклала свой адбітак і на традыцыйна ліберальнай літаратуры Расеі, штурхаючы яе ў стойбішча маргінальнага шавінізму. Масавая культура, не ў стане набыць гуманістычны зьмест, увачавідкі ператвараецца ў кітч ці голае імпэрскае палітыканства. Рэалістычнае мастацтва, страчваючы крытэрыі, усё болей спаўзае ў стадыю выраджэньня. Шматгадовае існаваньне ва ўмовах усеагульнай рэглямэнтацыі пэўным чынам паўплывала на мэнталітэт сучаснага чалавека. Апынуўшыся ў абставінах рынкавай волі, ён разгублена азіраецца па баках, ня ведаючы, што рабіць, каму верыць? І нават як пракарміць сябе. Яго штатныя наглядчыкі пакінулі яго без нагляду, і ён дагэтуль не зразумеў, добра гэта ці не. Літаратура таксама ня ведае таго. Яна набыла тое, чаго была пазбаўлена шмат год і пра што толькі марыла — свабоду творчасьці. Але што ёй рабіць цяпер з гэтай свабодай? Як карыстацца ёю? Хто будзе выдаваць яе кнігі, каму яны будуць патрэбныя? Напаўгалодны народ мае патрэбу ў хлебе, гэта ўжо пэўна. Але пасьля ўсяго, што ён перажыў, яшчэ не вядома, ці спатрэбіцца яму праўда і праўдзівыя кнігі.

Можа, яму болей была-б даспадобы прыгожая калядная казка, якая-б прыўкрасіла парадаксальныя будні яго жыцьця? Але ствараць прыгожую літаратуру могуць хіба наступныя пакаленьні пісьменьнікаў. Жыцьцё папярэдніх было мала прыдатнае для стварэньня калядных казак. Яны перажылі крывавую вайну, гады таталітарнага прыгнёту і, як умелі, засьведчылі свой трудны і горкі вопыт.

Магчыма, ён спатрэбіцца хоць-бы для нашай гісторыі.

---

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Рэдактар!

Я прачытаў некалькі артыкулаў у газэце, аб тым, як прэзыдэнт Беларусі ня любіць беларускай мовы. Перад тым, як галасаваць за прэзыдэнта, трэба было даведацца ад яго, што ён думае пра беларускую мову і сваю краіну Беларусь... Калі прэзыдэнту А. Лукашэнку падабаецца расейская мова, гэта нядрэнна, бо бываючы ў Расеі яму не патрэбен перакладчык. Калі ён здольны вывучыць ангельскую мову – будзе яшчэ лепш...

Але да беларусаў, беларускі прэзыдэнт абавязкова мусіць гаварыць пабеларуску. На тое ён і ёсьць беларускім прэзыдэнтам!

К. В.

*З вышэй сказаным згодны... Але-ж трэба памятаць, што які народ, такі і правадыр...*

Дзякуй за "Дайджэст".

Вельмі цікавая і карысная газэта... Так што дай Вам Бог многа сілы і багацьця, каб маглі працягваць ахвярную працу для Беларусаў у Амэрыцы.

А. і О. К.

*Дзякуй за добрыя словы. Будзем старацца...*

Сп. Мікола!

Прыпадкова давялося прагледзець "Беларускі Дайджэст". Цікава, колькі ты маеш падпішчыкаў?.

Л. Д.

*Ніякіх падпішчыкаў я ня маю, але затое маю многа прыяцеляў і людзей добрае волі (не падпішчыкаў), якія сваімі ахвярамі дапамагаюць мне неяк зводзіць канцы з канцамі. Я ведаю, што і ты мог-бы прысласць ахвяру і на газэту і на музэй, і ад гэтага нічуць не зьбяднеў-бы...*

# ...І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!



## Станіславу ШУШКЕВІЧУ — 60

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ**

1952 год. Другі курс фізіка-матэматычнага факультэта БДУ. З фотакарткі адкрыта, даверліва глядзіць зусім зялёны, здавалася б, юнак.

Але ўражанне падманлівае. Гэты хлопец паспеў ужо зведаць не адзін жорсткі ўдар лёсу. За беларускія вершы заточаны ў ГУЛАГ бацька. Пачала цяжка хварэць маці. Ён, Стась, — адзіны ў хаце мужчына. Давялося навучыцца ўсяму — ад цяслярства да кухарства. Не запускаючы, вядома ж, і школу, якую скончыў з сярэбраным медалём. Як і бацька, Стась надзвычай любіў літаратуру, выдатна пісаў сачыненні. Але маці была няўмольнай: толькі фізмат, толькі дакладныя навукі. Строгая формула — гэта не вершаваны радок, у якім пры жаданні заўсёды могуць знайсці крамолу...

Нягледзячы на бліскучы атэстат, ягоныя дакументы прымуць ва універсітэт толькі з сёмага, здаецца, заходу. І потым, з неахвотай залічыўшы, яшчэ неаднойчы абразліва дадуць зразумець: ты — з кляймом, ты — сын ворага народа...

Гэтыя крыўды не зробяць яго жорсткім і нелюдзімым. Зірніце яшчэ раз на старое фота. Стась быў не толькі адным з першых у вучобе, але і душой студэнцкай кампаніі — акардэаніст, балалаечнік, мастак распавядаць дасціпныя анекдоты і экспромтам складаць эпіграмы...

Пройдуць гады — і ён стане выдатным навукоўцам, адным з наймацнейшых спецыялістаў у ядзернай фізіцы. Здавалася б, жыццёвы шлях вызначаны раз і назаўсёды. Гучнае імя ў навуцы, прэстыжная кафедра, цэлая плеяда ўдзячных выхаванцаў, піетэт студэнцкай аўдыторыі, зачараванай чарговай бліскучай лекцыяй мэтра... Што яшчэ трэба?

Але на шостым дзесятку гадоў, захоплены хваляй першага, рамантычнага перыяду гарбачоўскай перабудовы, прафесар Шушкевіч рызыкне зрабіць крок у вялікую палітыку.

Гэта будзе час яго новага імклівага ўзлёту. І час новай жыццёвай драмы...

Сёння, здаецца, працверазіліся ўжо многія з тых, хто заганяў у кут і бязлітасна, раз'юшана таптаў не спрактыкаванага ў апаратных інтрыгах спікера.

Сёння, калі ў запаветных крэслах апынулася нямала людзей, не абцяжараных лішкам інтэлігентнасці і маральнасці, ёсць магчымасць параўнаць...

Сёння, калі мы ўбачылі, чаго каштуюць папулісцкія абяцанкі і кавалерыйскія наскокі на складаныя сацыяльна-эканамічныя праблемы, калі дзевяты вал кіраўнічага дылетантызму, амбіцыйнасці і вузкалобай палітычнай нецярпімасці пагражае канчаткова захліснуць хворае грамадства, — бадай, па-іншаму ўспрымаюцца любімыя слоўцы былога спікера, неаднойчы перадражненыя ягонымі працўнікамі: "згода", "памяркоўнасць", "кампетэнтнасць"...

Сёння, калі расійскія хлопцы кінуты ў чачэнскую мясарубку і не адна беларуская маці дзякуе Богу, што там няма яе Міколы ці Алеся, — варта згадаць, як паўтара года таму тагачасны Старшыня Вярхоўнага Савета вёў няроўны бой з агрэсіўнай большасцю, каб не дапусціць ваеннага альянсу з Крамлём. Варта згадаць і пра тое, як неадночы, адказваючы на абвінавачванні за "белавежскую змову", Шушкевіч даводзіў: а інакш ці не апынуліся б мы зараз у крывавым віры накшталт югаслаўскага?

І, нарэшце, калі сёння на планеце трохі ўжо ведаюць і паважаюць Беларусь, то хіба не за тое высакароднае імкненне да бяз'ядзернасці і нейтралітэту, якое шчыра, пераканаўча прадэманстраваў свету першы лідэр маладой незалежнай дзяржавы?

На жаль, іншых козыраў у нашай дзяржавы пакуль што няшмат... Але ёсць людзі, шмат людзей, што, як і Станіслаў Шушкевіч, бачаць шлях да лепшай будучыні нашага шматпакутнага краю праз усталяванне дынамічнай рыначнай эканомікі, развіццё дэмакратыі, умацаванне беларускай дзяржаўнасці, адраджэнне роднай мовы, нацыянальнай духоўнасці.

Ды і сам Станіслаў Шушкевіч, дэпутат Вярхоўнага Савета, дырэктар Цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў, лічыць, што ў яго досыць сіл, каб яшчэ не адзін год працаваць на карысць Бацькаўшчыны.

Чаго мы шчыра яму і жадаем.

З юбілеем, Станіслаў Станіслававіч!

# ПЕРАМОЖА РОЗУМ

У мяне няма здароўя чытаць тэксты тыпу «Прэса, эфір, мова» Леаніда Лыча! Ён, сам таго не адчуваючы, робіць праблематычнай беларускую мову ў Беларускай дзяржаве. Прымаючы пазіцыю просьбіта аб ласцы для Яе, і то перад кім: перад тымі, каму просьбы ягоныя найначай «да лямпачкі»! Гэта ж паніжальна. Што гэта: хвароба, нейкая псіхічная слязлівасць у беларускім Адраджэнні?

Такі артыкул быў бы зразумелы і нармальны, калі б з'явіўся ў асяроддзі беларускай нацыянальнай меншасці ў іншай дзяржаве, дзе спрыянне беларушчыне залежыць ад таго, наколькі ўдасца нацменскім дзеячам расчуліць каго трэба ва ўладных структурах. Ды не толькі сп. Лыч піша з пазіцый беларускай нацыянальнай «меншыні» ў Рэспубліцы Беларусь.

Я сардэчна-катэгарычна малю вас, спадарове, пакіньце гэту практыку плачу і енку! Яна на руку тым, каго вы, як вам ілюзорна здаецца, абвінавачваеце. Напраміль Бог, перастаньце!

Чыя ўлада ў дзяржаве, таго і мова ў ёй. Я ведаю, што лішне паўтараю такую элементарнасць, але, на жаль, адчуваю сябе змушаным у тым. Калі ў Варшаве кажуць і пішуць, што беларуская мова, папраўдзе, не ёсць чужая палякам, а народжаны ў той сталіцы саракагадовы віцэ-прэм'ер урада Цімашэвіч, будучы ў гуморы, возьме і акуратна загаворыць на ёй, дык чорным анекдотам бачацца мне дысурткі нацыянальных бязбацькавічаў у Менску пра бар'ерную незразумеласць рускамоўным нашага слова. Каму незразумелы беларус? Больш паляку ці больш рускаму? Пытанне, якое справядліва можа абразіць інтэлігентнага чалавека.

У гэтай заходнерускай сталіцы нярускай дзяржавы атабарыліся правінцыялы з даўно вывіхнутым сумленнем, што даказвае хаця б статыстыка выданняў па-руску і па-беларуску. Антыбеларуская «Советская Белоруссия» справядліва заслужана быць пастаўленай перад судом за дзейнасць на шкоду Рэспубліцы Беларусь як нацыянальнай дзяржавы беларусаў. Прыкладам кажучы, у Польшчы, у якой толькі чатыры працэнты палякаў не адчуваюць асаблівага гонару за сваю нацыю (дадзеныя апытання ў пачатку кастрычніка), за публічную кпіну з дзяржаўнага сцяга і герба суд шпарыць мінімум год зняволення.

У высокацывілізаванай Вялікабрытаніі жартаваць можна практычна з усяго, акрамя каралевы — сімвала Злучанага Каралеўства. Брытанец не дазволіць сабе дрэнна выказацца і наконт самога трона. Гэта ў яго ўжо ў генах.

Недатыкальнасць сэнсу дзяржавы, недатыкальнасць сэнсу нацыі... Без гэтага не будзе гарантыі дэмакратызму, але разгул фрустратаў, інтэлектуальна недапечаных авантурыстаў, грашовых жулікаў, сіротаў эпохі і мінулых людзей, што хапаюцца за сучаснасць, бы той нябожчык на сюррэалістычным магільніку сярэдніх вякоў.

Спадар Лыч, спадар Капчык і ўсе Паважаныя Спадарове! Вы ж дасканала разумееце, што фантастычна-рускамоўным мроіцца вяртанне ў Беларусь менавіта Расіі. Ім трэба губерні. Непатрэбна беларуская суверэннасць. Яны ёю гідзяцца, як можа гідзіцца каланізатар абарыгенам. І ніхто, анійкая сіла не стрымаюць іх ад імкнення да свайго роду афрыканізацыі Беларускай тэрыторыі.

Спяшаюцца забіць беларускае, пахаваць? Да іх не даходзіць, што яны спазніліся, таму падсвядома рэагуюць па законах экстрэмальнасці. Улады рэспублікі асцярожныя з беларусізацыяй. Каму, як не ім, ведаць, на які воз селі? Націсні на тую ж беларусізацыю і, як піць даць, узнікне сіндром... беларуская акупанта (заходнерускай) Беларусі. Акупантаў жа ніхто не любіць!

Як заўсёды ў падобных сітуацыях, вырашальны голас належыць нацыянальнай школе. Структурна камплектнай: пачатковай, сярэдняй, вышэйшай; агульнаадукацыйнай і прафесійнай. Дзяржава, якая не цэніць школьную справу, сама сабе капае магілу.

Стратэгія беларускага Адраджэння па-за дыскусіяй. Гаворым пра тактыку. А яна ж старасвецкая, яна, на жаль, у стылі просьбы мужыка да паночка. Быццам Марцінкевіча чытаеш або Багушэвіча. І не «ЛіМу» гэтым займацца, тым болей, што тэксты зазвычай агульныя, нікога персанальна не чапаючыя, значыць -- пісаныя ўсім і нікому. Бяспечныя!

Палякі (а здавалася б, чаго ім як нацыі баяцца?) бяруцца ўтварыць незалежны ад урада грамадскі інстытут абароны добрага імя Польшчы і яе нацыі. Урад у кожнай краіне не ёсць да канца сугучны з нацыянальнымі інтарэсамі, прырода дзяржаўнага апарату часамі нагадвае амялу на дрэве, вось.

Палякі не арыгінальны ў сваёй задуме, пераймаюць яе ад французаў. Гэта мой намёк на нешта кшталтам Грамадскага інстытута абароны добрага імя Беларусі і беларускай культуры. Дзве галоўныя дзялянкі яго дзейнасці: пратэстацыя і дакументацыя. Фармулява пратэсты супраць вульгарных нападаў у сродках масавай інфармацыі краіны і па-за яе межамі. Не так, урэшце, і важна тое, ці адрасаты палічацца з імі: публікаваць перш за ўсё ва ўласным бюлетэні. Што да дакументацыі, дык павінна яна мець не паліцэйскі, а маральны аспект, быць крыніцаю аб'ектыўнай інфармацыі пра антыбеларускія праявы ў адміністрацыі, школьніцтве, культуры і г. д.

На якія сродкі існаваў бы інстытут? На мінімальныя, бо не будзе ўрад фінансаваць крытыкаў яго. Ксеракапічны (беларуска-ангельскі?) бюлетэнь каштаваў бы найперш, рэшта трымалася б на энтузіязме адраджэнцаў. Неабходна захаваць строгую дакументальнасць тэкстаў, фактаграфічную іх сухасць, каментарыі і эмоцыі пакідаючы чытачу. Пара канчаць паядынак словамі, метафарамі; нас заўсёды перабрэшуць на людзях тыя, у чыіх руках чытабельныя газеты і часопісы. Быць моцнымі ў фактах, не ў языку, бо і так даволі ўжо ганяюць нас як не пад плот, то пад падрубу... Напалеон пад старасць сказаў: «Суцяшальна тое, што розум, аднак, перамагае шаблю».

*"ЛіМ"* **Сакрат ЯНОВІЧ**

Спадар С. Яновіч мае поўную рацыю. Людзі на Беларусі так глыбока застрашаны рускімі шавіністамі, і імпэрыялістамі, што яны нават думаць панезалежніцку баяцца...

# ПАРАДАК У НАШЫМ ДОМЕ

*Маральнае крэда Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў*

Мы прыйшлі дзеля таго, каб навесці на Беларусі парадак. Нашае права на гэта вынікае з нашага МАРАЛЬНАГА КРЭДА.

ПАРАДАК у нашай дзяржаве заўсёды пачынаецца з прынцыповага падзелу: хто тут свой, а хто — чужы. Свае і чужыя людзі прадстаўляюць адпаведна свае і чужыя інтарэсы. «Хто ў гэтай краіне гаспадар і чыім інтарэсам ён служыць?» — вось пытаньне, якое дае нам зразумець — незалежная гэта краіна ці калёнія, свабодны яе народ ці паняволены.

Калі кіраўнікі краіны больш думаюць пра інтарэсы іншых дзяржаваў — гэта людзі чужыя.

Чужы чалавек — ня значыць вораг: чужы — толькі госьць, сусед знаёмец. Але ні госьцю, ні суседу, ні знаёмцу не дазволена тое, што дазваляецца бацьку або брату. Ні госьцю, ні суседу не дазволена даваць нам зьневажальныя ацэнкі і кіраваць намі. Хай ацэньваюць у сябе дома, хай кіруюць сваімі людзьмі.

Людзі чужыя так ці інакш працуюць на чужыя для Беларусі інтарэсы. Сярод іх шмат простых людзей, якія нічога не вырашаюць, але шмат і такіх, што пастаўленыя гаспадарамі над намі. Якраз яны кажуць пра гістарычную і генэтычную крэўнасьць Беларусі з Расеяй, бо яны гавораць пра «Беларусь, якую яны прадстаўляюць». Але кожны, хто хоць трохі знаёмы з гісторыяй Беларусі, ведае, што гэта — хлусьня. Якраз яны «ад нашага імя» патрабуюць зноў зрабіць з нашай краіны бедную ўскраіну сваёй імпэрыі. Але кожны, хто ведае пра мінуўшчыну Беларусі, усьведамляе, што людзі чужыя не прынесьлі і ніколі не прынясуць нашай краіне шчасьця.

Яны не прынесьлі нам шчасьця, таму што шчасьце нельга прынесьці. Яго можна толькі здабыць, стварыць, збудаваць самім.

Сёньня наша Беларусь — краіна на ростанях. Гэтыя ўлады толкам ня ведаюць, што зь ёй зрабіць — ці аддаць каму, ці прадаць, ці жыць самім. Гэтя ўлады ня хочуць несьці поўную адказнасьць за наш край, таму ня маюць маральнага права кіраваць ім. Гэта яны ператварылі нашую краіну ў прахадны двор для злачынцаў ледзь не з усяго сьвету. Яны — альбо людзі чужыя, альбо толькі марыянэткі чужых інтарэсаў, а не гаспадары. Маральнае права быць гаспадарамі на сваёй зямлі належыць нам — тым, для каго няма іншай краіны ды іншага лёсу, акрамя жыцьця тут.

ТУТ нам дазволена ўсё — і добрае, і благое. Бо толькі ад нас залежыць, якой краінай стане Беларусь. Калі мы ня будзем карыстацца гэтым сваім правам — з нашага права скарыстаюць людзі чужыя.

ТУТ няма такіх дзьвярэй, такіх «офісаў», у якія нам нельга было б увайсьці і спытаць — чым інтарэсам служаць іхныя ўладальнікі?

ТУТ няма такіх органаў, установаў, чыноўнікаў, якія маглі б прымусіць нас служыць чужым інтарэсам.

Нікому ня вольна пасягаць на Беларусь. Амэрыканскія фэрмэры некалі па межах сваіх гаспадарак выстаўлялі шыльды: «Прыватная ўласнасьць. Страляю без папярэджаньня». Так яны прывучылі чужых людзей шанаваць сваю маёмасьць, і цяпер ужо няма патрэбы ў шыльдачках. Беларусь — нашая прыватная ўласнасьць. Мы мусім прывучыць чужых шанаваць нашую ўласнасьць — Беларусь.

Нікому ня вольна абражаць Беларусь — бо ён абражае нас і павінен ведаць, што не застанецца беспакараны. Абразіць іншы край можа толькі дзікун, і мы не даўядзем яму, што любім гэтую зямлю, бо дзікун прызнае толькі перавагу сілы. І таму ён павінен ведаць нашую сілу.

Мы мусім раз назаўсёды і для ўсіх сьцьвердзіць беларускія інтарэсы. Мы мусім паказаць чужакам сваю, беларускую сілу. Мы мусім ачысьціць наш край ад чужых кіраўнікоў і ад замежнай злачыннай набрыдзі. Менавіта гэтага чакаюць ад нас нашыя маткі, жонкі і дзеці, а не таго, што мы зноў пойдзем на паклон да чужых людзей. Паклоны звычайна даюць гаспадарам, а не гасьцям.

Мы мусім вярнуць на нашую зямлю нармальны, людзкі парадак рэчаў і паўсюль ды кожнаму сьцьвердзіць, што беларус — ня ўбогі жабрак, а чалавек, якога трэба паважаць; што Беларусь — не зашталы дадатак да Расеі, не прахадны двор, а — краіна, якую трэба паважаць; што беларускі парадак — гэта не бязладзьдзе марыянэтак альбо заежджых гаспадароў і злачынцаў, а дакладна вызначаны падзел: дзе сваё, а дзе не сваё, дзе людзі свае, а дзе людзі чужыя, дзе інтарэсы свае, а дзе іншых дзяржаваў, і — хто ў гэтай краіне гаспадар.

Жыве Беларусь! "Свабода"

# Min. A. Milczanowski z wizytą na Białorusi

Mińsk (PAP) — Delegacja resortu spraw wewnętrznych, z ministrem Andrzejem Milczanowskim, odbyła trzydniową wizytę w Mińsku, gospodarzem której było białoruskie MSW.

Minister Milczanowski, wraz z towarzyszącymi mu m.in. komendantem głównym Policji Zenonem Smolarkiem i szefem UOP Gromosławem Czempińskim, przeprowadził rozmowy z ministrem spraw wewnętrznych Białorusi Jurijem Zacharenką i przewodniczącym KGB Władimirem Jegorem.

Poproszony przez PAP o ocenę pierwszego dnia wizyty w Mińsku Andrzej Milczanowski powiedział:

"Klimat jest bardzo dobry, rozmowy, zarówno w MSW, jak i służbach specjalnych — konkretne i rzeczowe. I chyba nie jest to tylko konwencjonalność.

Wizytę zakończyło w piątek podpisanie protokołu i konferencja prasowa szefów białoruskiego i polskiego MSW.

# РАБАЎНІЦТВА СТАГОДДЗЯ НА БЕЛАРУСІ

## Інкасатар застрэліў свайго напарніка і спрабаваў уцячы з мяшком доляраў

**Пачатак сёлетняга года на Беларусі ўжо азмрочаны новым крымінальным рэкордам. Трэцяга студзеня непадалёку ад Лагойска была абрабавана машына Віцебскага ўчастка інкасацыі, якая везла ў Мінск 1 мільён 495 доляраў ЗША, 299 тысяч 970 нямецкіх марак, 230 тысяч фунтаў стэрлінгаў, 1 тысячу 40 французскіх франкаў, 1 тысячу 580 фінскіх марак, 50 канадскіх доляраў. Праўда, злачынца – інкасатар Шарэнда – так і не паспеў скарыстаць ніводнага з украдзеных доляраў.**

Аднак аб усім па парадку. Трэцяга студзеня чатыры віцебскія інкасатары везлі ў Нацыянальны банк памянёную суму СКВ. Двое ахоўнікаў грошай – спадары Шарэнда і Фралкоў– сядзелі ў салоне аўтамабіля, дзе знаходзілася валюта, а старшы інкасатар Ісцянкоў – побач з вадзіцелем. Непадалёку ад вёскі Акалова Шарэнда раптам запрасіў «камандзіра» ў кунг– пагуляць у карты. Але Ісцянкоў адмовіўся. Праз нейкі час у будцы пачуўся стрэл, і Шарэнда запатрабаваў спыніць машыну. Калі аўтамабіль тармазнуў, злачынца адчыніў дзверы і выстраліў Ісцянкову ў пляччо. Вадзіцель Чыронка паспеў выбіць з рук злачынцы пісталет, аднак Шарэнда адабраў у Ісцянкова аўтамат, выпхнуў абодвух інкасатараў з кабіны аўтамабіля, сеў за руль і памчаўся у бок лесу. Акрываўлены Ісцянкоў спыніў першую машыну, якая трапілася на дарозе, і кінуўся ў пагоню. У 12 гадзін 30 хвілін паведамленне аб гэтым рабаванні паступіла ў Лагойскі раённы аддзел унутраных спраў. Начальнік РАУС падпалкоўнік Уладзімір Ляшкевіч сам узначаліў групу захопу дзёрзкага рабаўніка. Хутка міліцыя знайшла інкасатарскі «КамАЗ», у якім ляжаў забіты Фралкоў. Шарэнда, захапіўшы мяшок з валютай, уцёк у лес. За ім наўздагон кінуўся Уладзімір Ляшкевіч і яго намеснік Сцяпан Яраш. Міліцыянеры праследавалі злачынцу дзесьці кіламетраў пятнаццаць. У рэшце рэшт Шарэнда спыніўся, кінуў мяшок з грашыма, залёг у меліярацыйнай канаве і пачаў адстрэльвацца з аўтамата. Невядома, чым бы скончылася перастрэлка для двух міліцыянераў, бо патроны ў аўтамаце Ляшкевіча ўжо амаль скончыліся, а з пісталетам супраць «Калашнікава», як вядома, не вельмі павоюеш, калі б на дапамогу не падаспелі іх таварышы. Неўзабаве з'явіўся і верталёт з групай захопу, прысланы з Мінска. Блакіраваны з усіх бакоў злачынца ліхаманкава адстрэльваўся. Але раптам спыніў агонь. Праз некалькі хвілін, падышоўшы бліжэй, міліцыянеры ўбачылі акрываўлены труп Шарэнды разам з мяшком запаветных доляраў. Па словах Уладзіміра Ляшкевіча, злачынца, відавочна, зразумеўшы, што гэты бой яму не выйграць, хутчэй за ўсё, застрэліўся сам.

Такім чынам буйнейшае за ўсю гісторыю незалежнай Беларусі рабаўніцтва было раскрыта па гарачых слядах. Супрацоўнікі Лагойскага РАУС у літаральным сэнсе слова выйгралі бой са злачынцам. І вельмі хацелася б спадзявацца, што няўдалы вопыт інкасатара Шарэнды астудзіць галовы іншым аматарам лёгкай нажывы.

"ЗВЯЗДА" **Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# Фашыстаў пабілі, а ў камуністаў усё прайшло спакойна

*"Свобода"*

**У мінулую нядзелю ў Менску адбыліся дзьве досыць прыкметныя падзеі.**

У Палацы культуры тонкасуконнага камбіната зьбіраліся наладзіць прапагандысцкае шоў двое расейскіх нацыянал-фашыстаў — Эдуард Лімонаў і Аляксандар Дугін. Яны прыехалі да нас, каб падтрымаць дух менскіх груповак такога ж кшталту. Арганізатарам мерапрыемства быў 19-гадовы жыхар Менска Ул.Селіванаў, які рэпрэзэнтуецца намесьнікам старшыні лібэральна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Маскоўскія госьці і іхныя менскія сябрукі паводзілі сябе спачатку досыць упэўнена, раздаючы фашыстоўскія газэткі: Нечакана ў палац уварвалася даволі вялікая група людзей (некалькі сотняў), якія прыехалі сюды зь мітынгу БНФ. Найболып пацярпелі баевікі-ахоўнікі, якія мелі нашыўкі з фашыстоўскімі свастыкамі. Са слоў відавочцаў, іх моцна зьбілі. Калі б не падасьпеў АМОН, гэтым небаракам перапала б яшчэ больш. Людзі крычалі: «Фашысты, прэч зь Беларусі».

Лімонаў і Дугін не пацярпелі. У гэты момант яны знаходзіліся ў грымёрнай, дзе рыхтаваліся да прэс-канфэрэнцыі. Адтуль яны ўцяклі праз вакно. Міліцыя затрымала іх на вуліцы. У гэты ж дзень іх пасадзілі на цягнік і выправадзілі ў «белокаменную». Менскіх арганізатараў мерапрыемства таксама затрымалі і будуць прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасьці за несанкцыяваную акцыю.

У гэты ж самы дзень у Менску праходзіў трэці зьезд Партыі камуністаў Беларусі, дзе, аднак, было ўсё спакойна. Сярод дэлегатаў карэспандэнт СВАБОДЫ пабачыў шмат «старых знаёмых», у прыватнасьці, Г.Данілава, Ул.Замяталіна, П.Казлоўскага.

Дарэчы, яшчэ адна цікавая навіна. У мінулую пятніцу ў Доме ўраду па калідорах прэзыдэнцкай адміністрацыі важна расхаджваў сумнавядомы маскоўскі генэрал-путчыст Альбэрт Макашоў (са значкам дэпутата ВС СССР). Што б гэта значыла?

**М.Г.**

# Самолет "Белавиа" мягко "шлепнулся" в Ирландии

*— "Народная газета"*

**Утром 17 октября из аэропорта "Шеннон" (Ирландия) рейсом Шеннон—Минск-2 взлетал самолет ТУ-134А авиакомпании "Белавиа". В салоне, по предварительным данным, находилось 35 пассажиров. При отрыве от взлетно-посадочной полосы экипаж самолета ощутил удар, после которого левый двигатель с максимальной тяги самопроизвольно перешел на режим малого газа.**

После набора высоты круга (400—600 м) высветилось табло левого двигателя — "давление масла мало". Экипаж экстренно выключил двигатель и произвел посадку на одном правом двигателе. На земле выяснилось, что у самолета отвалилась часть двигателя. "Пропажу" нашли на взлетно-посадочной полосе. В тот же день "Белавиа" оперативно послала в Шеннон второй "борт" и вывезла всех пассажиров в Минск. Обошлось без пострадавших и крупных материальных потерь. По международным меркам вынужденная посадка в Ирландии классифицируется как инцидент.

Ведущий инженер-инспектор инспекции по безопасности полетов "Белавиа" Александр Селезнев рассказал, что экипажи на тренажерах неоднократно отрабатывают полет на одном двигателе. И справится с такой ситуацией под силу пилоту даже средней квалификации.

В Шенноне вторую неделю работает комиссия "Белавиа" и представителей российских авиазаводов. Разрушенный двигатель должны отправить на экспертизу на завод-изготовитель "Пермские моторы". Известно также, что двигатель три года назад ремонтировался в Москве, но до следующего ремонта еще не налетал положенное время.

Однако инцидент далеко не исчерпан. Как пояснил минский транспортный прокурор Юрий Сергиенко, после получения

выводов комиссии и данных экспертизы двигателя прокуратура рассмотрит возможность возбуждения уголовного дела по ст. 82. УК Беларуси. Часть вторая этой статьи предусматривает ответственность, даже если нарушение правил безопасности движения и эксплуатации транспорта не повлекло серьезных последствий. Правда, практика показывает, что судебные органы крайне неохотно расследуют такие дела, словно дожидаясь настоящих авиакатастроф.

**Юрий НОЯРОВИЧ.**

# КАМУ ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСКІЯ ТАВАРЫ

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ, знешнегандлёвы абарот рэспублікі з краінамі далёкага і блізкага замежжа ў студзені–лістападзе гэтага года склаўся ў памеры 13,9 трлн. беларускіх рублёў (4,4 млрд. долараў ЗША па сярэднеўзважанаму курсу Нацыянальнага банка за адзінаццаць месяцаў 1994 г.). Абарот з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў склаў 9,6 трлн. рублёў (3 млрд. долараў ЗША), ці 68,8 працэнта ад агульнага аб'ёму знешняга гандлю. Сальда знешняга гандлю – адмоўнае ў суме 56,9 млрд. рублёў (18,1 млн. долараў). З краінамі СНД яно складае 1,3 трлн. рублёў (399,4 млн. долараў ЗША). З краінамі далёкага замежжа – станоўчае ў суме 1,2 трлн. рублёў (381,3 млн. долараў).

Экспартавана тавараў на 6,6 трлн. рублёў (2,1 млрд. долараў ЗША), аказана паслуг на 310,2 млрд. рублёў (98,9 млн. долараў)., Экспарт тавараў і паслуг у краіны СНД склаў 4,2 трлн. рублёў (1,3 млрд. долараў), ці 60,1 працэнта ад агульнага аб'ёму экспарту. Імпарт тавараў склаў 6,9 трлн. рублёў (2,2 млрд. долараў), атрымана паслуг на 92,3 млрд. рублёў (29,4 млн. долараў). Імпарт з краін СНД склаў 77,5 працэнта ад агульнага аб'ёму.

*"Звязда"* **РІД.**

# ЗНОЙДЗЕНЫ КЛАД НАПАЛЕОНА

У вёсцы Гарадзечна Пружанскага раёна, дзе нядаўна адкрылася праваслаўная часоўня ў гонар воінаў, якія загінулі ў 1812 годзе, – новая падзея. Тут выяўлены буйнейшы клад Напалеона, які амаль два стагоддзі беспаспяхова адшуквалі археолагі.

Адкрыццё адбылося выпадкова, калі ў калгасе імя Дзяржынскага расшыралі свінагадоўчы комплекс і спатрэбілася правесці земляныя работы. Спецыялістам трэба яшчэ ўстанавіць сапраўдную вартасць знойдзеных прадметаў. Але ўжо цяпер, пасля павярхоўнага агляду, зразумела, што каштоўнасць антыкварыяту вылічаецца сотнямі тысяч долараў.

**Алег СУПРУНЮК, РІД.**

# ЗБМ — некаторыя тайны

Звяз беларускай моладзі (ЗБМ) фармальна дзейнічае ад 12 студзеня 1992 г. Прапанова стварыць арганізацыю выйшла ад самой моладзі — сябры, з'яднаныя ідэяй, зразумелі, што разам змогуць зрабіць больш. Групы хлопцаў з Бельска, Гайнаўкі і Беластока супольна пачалі змагацца за беларускасць. Першай мэтай было гуртаваць моладзь з белліцэяў. Хутка, аднак, разбілі свае мары аб мур нацыянальнага нігілізму. Тады таксама дайшлі да вываду, што іх членамі будуць „самыя цвёрдыя з цвярозай думкай".

— Калі нехта вельмі хоча быць у Звязе, сам знойдзе да нас дарогу. Не будзем нікога заахвочваць, намаўляць, хадзіць па школах і рэкламаваць сваю арганізацыю, — заявіў Багдан Сіманенка, старшыня ЗБМу.

Спачатку дзейнічалі толькі хлопцы, пазней з'явіліся дзяўчаты. Стаўшы членамі ЗБМу нельга належыць да іншых арганізацый. Абавязвае таксама ўласны стыль адзення. Якраз і гэта найбольш кідаецца ў вочы пабочнаму гледачу. Звязаўцы апранаюцца на вайсковы манер, а чорную вопратку здобіць крыж Ярылы. (Пра крыж Ярылы чытайце побач артыкул А. Латышонка).

Арганізацыя мае свой гімн. Як сюжэт паслужыў верш А. Карпюка спалучаны з рэфрэнам В. Шалкевіча. Песня называецца „Крокам руш" або „Што гэта за песня".

— Галоўная ідэя нашай дзейнасці гэта падтрымка беларускасці. На практыцы абазначае гэта быць свядомым беларусам, у шырокім сэнсе. Многа рэчаў робім для сябе, унутрана. Арганізуем таксама мерапрыемствы: рэйды „Сцяна" і „Бардаўскую восень", — сказаў Багдан Сіманенка.

Старшыня растлумачыў таксама вельмі складанае пытанне: Як стаць членам ЗБМ?

— Паводле статута правы звычайнага члена можна набыць шляхам:

1) пісьмовай дэкларацыі, дзе падтрымоўваецца мэты і задачы Звязу,
2) паўгадовага стажу,
3) зацвярджэння членства Галоўнай радай ЗБМ.

На практыцы выглядае гэта яшчэ больш складана. Трэба прабыць гадавую стажыроўку. Тады відаць, ці чалавек надаецца ў нашыя рады. Мы не прымаем такіх, што толькі хацелі б насіць нашыя адзенні. У Звязе таксама не патрэбная публіка. Залежыць нам на моцных, цвёрдых людзях, — адзначыў старшыня.

Аднак, каб ведаць усе тайны ЗБМ, трэба быць яго членам. І на дадатак зацверджаным Галоўнай радай. Некаторыя мусяць спяшацца. У Звязе можна дзейнічаць толькі да 35 гадоў.

*"НІВА"* Ганна Кандрацюк

Як прыемна, што, нарэшце, беларуская моладзь у Польшчы пачынае быць патрыятычнай, адважнай і гордай сваім паходжаньнем... Брава!!!



# Беларусь на парозе Еўрапейскага саюза

**У Брусэлі адбудзецца трэці раунд перамоў паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскім саюзам па пагадненню паміж нашай рэспублікай, саюзам і ягонымі дзяржавамі-членамі. Мяркуецца, што на гэты раз бакі канчаткова ўзгодняць тэкст пагаднення і пяройдуць да падрыхтоўкі яго падпісання.**

**Калі Беларусь заключыць пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве з Еўрапейскім саюзам, яна фактычна ўстановіць узаемавыгадныя партнёрскія адносіны з 15 эканамічна развітымі дэмакратычнымі дзяржавамі еўрапейскага кантынента. Гэта дазваляе разлічваць на паўнапраўны ўдзел Беларусі ў працэсе еўрапейскай інтэграцыі.**

**Уладзімір БАРЫСАЎ.**

## BELARUŚ JOINS PARTNERSHIP FOR PEACE

At a ceremony in Brussels on January 11, 1995 Minister for Foreign Affairs of the Republic of Belaruś Uladzimir Syanko signed Belaruś into the NATO's Partnership for Peace.

The accession of Belaruś, which is strategically located at the crossroads of Central Europe, to the Partnership had been a subject of considerable debate on the compatibility of the NATO initiative with Belarus' aspiration towards neutrality as reflected in its new Constitution as well as on financial implications of participation.

Belarus has now pronounced itself ready for cooperation with the NATO.

**Няўжо так цяжка прысладь, хоць дзесяць даляраў, на Беларускі Музэй у Гайнаўцы?!!**